*Пралетарыі ўсіх краін, яднайцеся!*




# Літаратура і Мастацтва

ОРГАН МІНІСТЭРСТВА КУЛЬТУРЫ І ПРАЎЛЕННЯ САЮЗА ПІСЬМЕННІКАЎ БССР

ПЯТНІЦА, 22 красавіка 1988 г. № 17 (3427) ⊙ Выходзіць з 1932 г. ⊙ Цана 10 кап.



## Няхай вечна жыве і развіваецца вялікае рэвалюцыйнае вучэнне Маркса—Энгельса—Леніна!

*(З Заклікаў ЦК КПСС да 1 Мая 1988 года).*







Сёння, як ніколі раней, глыбокі сэнс набываюць радкі неўміручай паэмы У. Маякоўскага «Уладзімір Ільіч Ленін»: «Я сябе пад Леніным чышчу, каб плысці далей праз рэвалюцый гром». Працягваючы рэвалюцыйную перабудову грамадства, мы кожны свой крок вывяраем па ўчынках, справах правадыра.

Наша сённяшняе вяртанне да Леніна — гэта вяртанне не толькі да яго ідэйна-тэарэтычнай спадчыны, да ягонага вопыту стварэння і будаўніцтва першай у свеце сацыялістычнай дзяржавы, але і да яго самога — чалавека, таварыша, грамадзяніна. Яго светлы, незабыўны воблік, яго высокія чалавечыя і грамадзянскія якасці, ягоная беззапаветная адданасць справе пралетарыяту, справе камунізму — таксама з намі, таксама вучаць нас і натхняюць.

Сёння, у дзень нараджэння Ільіча, прапануем увазе чытачоў тры работы з беларускай мастацкай Лeнініяны: скульптуры А. Глебава «Сустрэча У. І. Леніна на Фінляндскім вакзале ў красавіку 1917 года» і С. Селіханава «У. І. Ленін», а таксама адну з частак трыпціха К. Касмачова «Незабыўнае».

 

**Але мне і, відаць, многім іншым надакучыла быць аб'ектам навязвання густу нейкага чыноўніка з саюзнага міністэрства. Я хачу мець выбар, прычым — з улікам асаблівасцей краю. Вось, скажам, такая сітуацыя.**

**З Мінска ў Гомель пасылаю на беларускай мове віншавальную тэлеграму сябру Алесю (такая ў нас склалася манера сувязі: ён мне, рускаму, піша па-руску, а я — беларусу — па-беларуску). Тэлеграма даходзіць нармальна, за выключэннем, можа, таго, што ў тэксце «і» ператвараецца ў «1», а «ў» робіцца проста «у». Дапусцім, бог з імі — з дзвюма літарамі. Але я не хачу, каб стылістыка майго паслання разламвалася, таму што надпіс на бланку робіцца выключна на рускай мове: «Поздравляю». Мне ж трэба: «Віншую». Няўжо ў межах рэспублікі нельга ўвесці ва ўжытак бланкі з беларускім выяўленчым сюжэтам і словам?**

**С. КРАПІВІН.**

г. Мінск.

●

Вось ужо доўгі час у Цэнтральнай кнігарні Мінска няма аддзела беларускай літаратуры. Дзе ён? Вынеслі ў кіёск у пад'ездзе, куды ўваход заставілі прылаўкам, і прайсці да кніг — цяжка. Звычайна ў праходзе стаіць прадавец, а перад ім на прылаўку рускамоўныя кнігі. Я аднойчы спытаў: «Зайсці можна?» «Там беларускі аддзел!» — адказала жанчына. «А што, там не кніжкі?» — не стрымаўся я і зайшоў за прылавак. Жанчына нервова ўстала і пачала назіраць за мной, быццам я рабіў нешта забароненае. Пасля гэтага выпадку я заўважыў, што аддзел і зусім пачалі прычыняць дзвярыма — ад такіх, мусіць, назол, як я.

**Віктар ШНІП.**

**АД РЭДАКЦЫІ. З лістом В. Шніпа мы звярнуліся да намесніка дырэктара Цэнтральнай мінскай кнігарні Л. М. Разанцавай. Яна растлумачыла нам, што магазін цяпер знаходзіцца на капітальным рамонце. Яго не зачынілі зусім толькі таму, што не знайшлося падменнага памяшкання. У цяжкім становішчы апынуўся не толькі аддзел беларускай літаратуры, але і многія іншыя: дзіцячай літаратуры, мастацтва, спорту. У нялёгкіх умовах працуюць і прадаўцы. Улетку мяркуецца праводзіць продаж кніг у спецыяльных кіёсках, а ў кастрычніку (так ва ўсякім разе абяцаюць будаўнікі) рамонт будзе скончаны.**

●

Я падтрымліваю настаўнікаў і бацькоў вучняў 1 класа СШ № 180 г. Мінска («ЛіМ» за 26 лютага 1988 г.) аб стварэнні таварыства «Асвета» ці таварыства «Беларуская школа». Я згодны і з тым, што «стыхійны рух энтузіястаў не пераадолее коснасці і фармалізму некаторых устаноў асветы ў справе адкрыцця ў сталіцы школ і класаў з роднай мовай навучання». Але ж аўтары пісьма забыліся на правінцыю. А тут становішча яшчэ горшае. Ды калі нават і будуць беларускія школы, а па-за школай — усё па-руску, то навука тая забудзецца ўмомант, як здарылася з намі, хто закончыў беларускія школы. Падыходзіць да гэтай справы неабходна комплексна.

А ў першую чаргу трэба аб'яднаць энтузіястаў, каб агульнымі намаганнямі ўзяцца за арганізацыю «таварыства». Справа гэта нялёгкая, але ж вельмі патрэбная. Я ўяўляю гэта так: трэба прызначыць пэўны дзень, пажадана выхадны, каб энтузіясты напачатку маглі б сабрацца і абгаварыць, як дапамагчы асвеце. У нас аднадумцаў многа — успомніце ў «ЛіМе» публікацыі «Закон і вакол закона». Трэба іх, аднадумцаў, і запрасіць на сустрэчу.

А памагчы яны «Асвеце» маглі б многім.

**А. БЛІНКОЎСКІ,**
**галоўны інжынер Заходняй геолагапошукавай партыі.**

г. Баранавічы.

# ПРАЗ ДАЛЕЧ ГАДОЎ

**Амаль 10 гадоў наша здымачная група — пісьменнік У. Мехаў, гісторык М. Сташкевіч, аператар В. Купрыянаў і я — працуе ў архівах і музеях, бібліятэках і прыватных зборах з матэрыяламі, звязанымі з гісторыяй рэвалюцыйнага руху ў Беларусі, з імем Уладзіміра Ільіча Леніна.**

**Фільмы, знятыя групай, у асноўным дваццацімінутныя. І, як правіла, пасля заканчэння работы над кінастужкай за яе жорстка абмежаванымі рамкамі экраннага апавядання застаецца малавядомы, а часта зусім невядомы дакументальны матэрыял...**

## АНКЕТА

У 1935 годзе вучоныя прапанавалі Н. К. Крупскай сістэматызаваную анкету адносна асобы Уладзіміра Ільіча Леніна. Крупская адказала на пастаўленыя ў анкеце пытанні.

**«— Няўклюдным не быў, хутчэй спрытны.**
**— Плаваў, добра катаўся на каньках, любіў катацца на веласіпедзе.**
**— Ляжаць зусім не любіў.**
**— Зрок у яго быў востры — страляў добра...**
**— Азарт на паляванні — поўзанне за качкамі на чацвярэньках.**
**— Зрокавая памяць цудоўная. Твары, старонкі, радкі запамінаў вельмі добра.**
**— Блядпеў, калі хваляваўся.**
**— Увогуле вельмі эмацыянальны».**

Вось так апісвае рысы характару Ільіча самы блізкі чалавек — жонка.

## ПРАЗ ПАЛІЦЭЙСКІЯ ЗАСЛОНЫ

Эмацыянальнасць ніяк не перашкаджала Уладзіміру Ільічу. Ясныя, загадзя прадуманыя рашэнні і гранічна выразна выкладзеная думка не раз пераконвалі не толькі тых, хто вагаўся, але і ўносілі «смуту» ў лагер яўных праціўнікаў. А Леніну даводзілася рашаць не толькі палітычныя задачы.

28 снежня 1911 года чыноўнік па асаблівых даручэннях у Парыжы паведаміў у дэпартамент паліцыі пра нараду замежных бальшавіцкіх груп і пра выступленне на ёй Леніна з дакладам пра становішча спраў у партыі.

«Барацьба з ліквідатарскімі і адзавісцкімі плынямі — такая практычная задача замежнай партыйнай арганізацыі,— гаварыў Ленін. — Нарада канстатуе, што партыя даўно ўжо... прызнае неадкладнейшую неабходнасць склікання партыйнай канферэнцыі».

Ва ўмовах сталыпінскай рэакцыі, якая распаўзалася па Расійскай імперыі, прадстаяла арганізаваць канферэнцыю так, каб не толькі забяспечыць прыезд дэлегатаў, але і стварыць бяспечныя ўмовы для іх вяртання ў Расію і далейшай работы.

Перапраўляць дэлегатаў за мяжу вырашана было тым жа транспартным шляхам, па якім дастаўлялася ў Расію нелегальная бальшавіцкая літаратура. Шлях гэты ішоў праз Беларусь.

У Лейпцыгу знаходзіўся ўпаўнаважаны бальшавіцкага цэнтра Осіп Пятніцкі. Ён адказваў за замежны ўчастак партыйнага транспарту: з Тыльзіту па чыгунцы літаратура прыбывае на станцыю Слетуна, далей з дапамогай кантрабандыстаў перапраўляецца праз граніцу ў вёску Рачкі, а потым у вёску Расосна, за тры кіламетры ад Гродна. Захоўваецца «нелегальшчына» ў Радзівілішках у ліцейшчыка Жыргулевіча. У Радзівілішкі ці проста ў Гродна прыязджае У. М. Залежскі, партыйная клічка «Валерыян». Звычайна ідуць удвух, бо кожны раз прысылаецца 4 пуды літаратуры. «У Расіі, — піша ў сваіх успамінах Осіп Пятніцкі, — вёў усю практычную работу «Валерыян», і жыў то ў Гомелі, то ў Навазыбкаве».

Забягаючы крыху наперад, можна расказаць, што ў маі 1912 года была аднаўлена самая буйная і моцная ў Беларусі Палеская арганізацыя РСДРП. У Палескі камітэт уваходзілі вопытныя, з суровай школай рэвалюцыйнай барацьбы бальшавікі, у ліку якіх кіруючую ролю іграў Уладзімір Мікалаевіч Залежскі, той самы «Валерыян». Хутка Палеская арганізацыя РСДРП распаўсюдзіла свой уплыў за межы Гомеля і ахапіла раён, які ўключаў гарады Клінцы, Жлобін, Магілёў, Пінск. Член Петраградскага камітэта бальшавікоў, Залежскі будзе прымаць самы актыўны ўдзел разам з маракамі Балтфлоту ў Кастрычніцкіх падзеях.

Вернемся ў 1912-ы.

На беларускім участку маршрут быў выпрацаваны бездакорна. Праўда, на другой яго ветцы, ад Гродна да Масквы, здараліся перабоі. За гэты ўчастак адказваў Брандзінскі, партыйная клічка «Мацвей», які жыў у Дзвінску (Даўгаўпілс). Менавіта яму разам з Пятніцкім было даручана перапраўляць дэлегатаў канферэнцыі за мяжу.

Да Брандзінскага ў Дзвінск прыехаў дэлегат ад Маскоўскай арганізацыі РСДРП Галашчокін.

**«Дэпартамент паліцыі ад начальніка аддзялення па ахове грамадскай бяспекі ў Маскве палкоўніка Заварзіна. 2 снежня прыбыў у Маскву беглы з Нарымскага краю, былы член Маскоўскага Камітэта РСДРП, заўзяты ленінец, адміністратыўна высланы Галашчокін, мешчанін г. Невеля Віцебскай губерні, зубны ўрач, закончыў 6-класную Віцебскую гімназію, партыйная клічка «Філіп». Група Леніна дала яму паўнамоцтвы зрабіць усё магчымае для «стварэння» адпаведнага толку дэлегатаў і беспрамаруджанай адпраўкі іх за мяжу».**

Філіп-Галашчокін некалькі дзён прабыў у Дзвінску і шчасліва перасёк мяжу разам з Брандзінскім, які чамусьці ўвязаўся разам з ім. Прыбылі ў Парыж. Неяк пазбавіўшыся спадарожніка, тайком ад яго Філіп-Галашчокін паехаў на канферэнцыю, дзе яму суджана было быць абраным у склад ЦК.

**«Размова з Брандзінскім у нас атрымалася вельмі дзіўная. — успамінае Крупская. — Мы атрымлівалі паведамленні, што літаратура шчасліва дастаўлена ў Маскву, а масквічы скардзіліся, што яны нічога не атрымліваюць. Я пачала пытацца ў Брандзінскага, каму ён перадае літаратуру. Ён пачаў называць наўздагад — адрасоў, маўляў, не памятаю. Я пачала пытацца пра Яраслаўль, ён сказаў, што не можа туды ездзіць, бо там быў арыштаваны. «Па якой справе?» А ён адказвае: «Па крымінальнай». Мне і мову адняло».**

Хутка пацвердзілася: Брандзінскі — правакатар.

З дакументаў дэпартамента паліцыі:

**«З пачатку 1909 года я быў сакрэтным супрацоўнікам пры Маскоўскім ахоўным аддзяленні, працуючы пад псеўданімам «Вяткін», а потым — «Крапоткін». Я даў матэрыял, які паслужыў галоўным падмуркам абвінавачання на вялікім сацыял-дэмакратычным працэсе, які адбыўся ў Маскве восенню 1912 года, калі з 33-х абвінавачаных не было ніводнага апраўданага, і аграмадная большасць атрымала катаржныя работы...».**

А як жа перапраўка дэлегатаў? Хоць зразумець здрадніка можна: яўкі на граніцы ведалі толькі Пятніцкі і Брандзінскі, і калі б рэвалюцыянераў у месцах явак схапілі, партыйцы адразу зразумелі б, што з Брандзінскім не ўсё чыста.

Тым не менш у Прагу, а канферэнцыя адбывалася іменна там, Брандзінскі так і не трапіў.

І ўсё ж гэты правакатар быў выяўлены.

**«Брандзінскі ў Расію больш не вярнуўся, царскі ўрад купіў для яго вілу пад Парыжам за 40 тысяч франкаў, — піша далей Крупская. — Я вельмі ганарылася тым, што зберагла канферэнцыю ад правакатара. Я не ведала, што на Пражскай канферэнцыі прысутнічалі і без таго два правакатары: Раман Маліноўскі і Раманаў».**

Тайны супрацоўнік Маскоўскага ахоўнага аддзялення правакатар Маліноўскі ў 1906 г. з карыслівай мэтай далучыўся да рабочага руху. У 1912 годзе на Пражскай канферэнцыі РСДРП быў выбраны членам ЦК, прайшоў у дэпутаты IV Дзяржаўнай думы. Па дадзеных дэпартамента паліцыі: «Меншавік-ліквідатар, але «паступова пасля самых сур'ёзных роздумаў і назіранняў», як ён гаварыў Леніну ў студзені 1912 г., пераходзіць да бальшавізму. Аднача́сова з гэтай эвалюцыяй робіць добрую кар'еру і ў ахоўным аддзяленні, дзе яго вельмі цэняць, паступова павялічваючы плату, першапачатковы памер якой не перабольшваў 50 руб. у месяц. Да 1912 г. усяго «агентурных запісак» у архіве былога Маскоўскага ахоўнага аддзялення маецца 57». Другі ўдзельнік канферэнцыі — правакатар Андрэй Раманаў, ахоўная клічка «Пелагея» — атрымлівае 100 руб. у месяц.

З даносу «Пелагеі» на Марыю Ільінічну Ульянаву:

**«Сама актыўнай партыйнай работы не выконвае, але служыць месцам, куды звяртаюцца ўсе найбольш сур'ёзныя работнікі за атрыманнем сувязей, явак і адрасоў».**

Але спыніць узрастаючую рэвалюцыйную хвалю было немагчыма.

**«Паўбяды было, што ў ЦК уваходзіў Маліноўскі, — піша Крупская, — паўбяды было, што аб нарадзе, якая была наладжана ў Лейпцыгу пасля канферэнцыі з прадстаўнікамі III Думы — Палятаевым і Шурканавым, было таксама дэталёва вядома паліцыі: Шурканаў аказаўся таксама правакатарам... Але паліцыя была бяссільная спыніць уздым рабочага руху».**

Дарэчы, у спісах сакрэтных супрацоўнікаў, знойдзеных у былым Пецярбургскім ахоўным аддзяленні, ёсць характарыстыка Шурканава: «Сквапны, просіць прыбаўкі».

Але як мала ўдаецца правакатарам! Нават тым двум, што прысутнічалі на канферэнцыі.

На дзевятым пасяджэнні канферэнцыі Ленін гаворыць пра неабходнасць захоўваць у тайне адрас, дзе адбываецца канферэнцыя. «Прапаную не паведамляць у перапісцы нічога пра канферэнцыю», — падкрэслівае Уладзімір Ільіч.

Залішняя трывога? Не! Толькі дакладны разлік. І пацвярджэнне гэтаму:

**«Яго Правасхадзіцельству Н. П. Зуеву, пану Дырэктару дэпартамента паліцыі. Ад 27 студзеня 1912 г. Абсалютна сакрэтна. Месцам для канферэнцыі выбраны чэшскі горад Прага, пасяджэнні адбываліся ў будынку дома прафесійных арганізацый, які размешчаны па Губернскай вуліцы. Начальнік Аддзялення па ахове грамадскай бяспекі ў Маскве палкоўнік Заварзін».**

Ад 27 студзеня! А канферэнцыя закончылася 17 студзеня і ўсе дэлегаты даўно раз'ехаліся!

Застаецца дадаць, што ў 1918 годзе правакатар Маліноўскі быў расстраляны па прыгавору Вярхоўнага трыбунала УЦВК.

## ЗАМАХ

У гэтую ноч спаць амаль не давялося. Ішоў першы дзень першага савецкага новага года...

Запіс Надзеі Канстанцінаўны, зроблены напярэдадні:

**«У выніку скасавання дворнікаў ніхто снег не расчышчаў, і патрэбна было вялікае майстэрства з боку шафёра, каб прабрацца праз наваленыя гурбы снегу».**

Дэталь, на якую трэба звярнуць увагу.

1 студзеня 1918 года быў рабочым днём. Днём у ленінскі кабінет прыйшоў нарком па ваенных справах Мікалай Ільіч Падвойскі з прапановай паехаць у Міхайлаўскі манеж на провады зводнага атрада Чырвонай Арміі на Заходні фронт. Ленін запрасіў сакратара сацыял-дэмакратычнай партыі Швейцарыі Фрыца Платэна, які быў тут, у Смольным, паехаць разам з ім да петраградскіх чырвонаармейцаў. Бліжэй да вечара Уладзімір Ільіч разам з сястрой Марыяй Ільінічнай, Ф. Платэнам, М. І. Падвойскім накіраваліся ў Міхайлаўскі манеж. Даехалі добра, і Ленін выступіў з прывітальнай прамовай на мітынгу, прысвечаным провадам на Заходні фронт, у Беларусь, атрада новай сацыялістычнай арміі колькасцю ў 700 чалавек...

21 студзеня 1926 года газета «Праўда» апублікавала успаміны шафёра цэнтральнай петраградскай аўтамабільнай базы, у нядаўнім мінулым селяніна вёскі Мікалаеўка Заборская воласці Гомельскай губерні Тараса Мітрафанавіча Гарахавіка:

**«Пасля мітынгу т. Падвойскі даў мне распараджэнне везці т. Леніна, куды ён скажа. У тую ж хвіліну выходзіць т. Ленін, яго сястра і яшчэ нейкая мне незнаёмая асоба».**

Незнаёмы для Гарахавіка быў Фрыц Платэн. Разам з Уладзімірам Ільічом яны ўладкаваліся на заднім сядзенні, побач з вадзіцелем села Марыя Ільінічна Ульянава.

**«Сеўшы ў аўтамабіль, — працягвае Гарахавік, — т. Ленін гаворыць мне:**
**— Калі ласка, паедзем у Смольны.**
**Я пусціў машыну хуткім ходам. Ноч была туманная і цёмная. Выехалі на мост праз Фантанку».**

Слова Марыі Ільінічне:

**«Ззаду ў кузаў аўтамабіля як гарох пасыпаліся ружэйныя кулі.**
**— Страляюць, — сказала я. Платэн схапіў галаву Уладзіміра Ільіча і адвёў яе ўбок». «Побач прагудзеў рой куль, — прадаўжае Гарахавік. — Аўтамабільнае шкло перада мной зазвінела, пырснуўшы мне асколкамі ў твар». «Гэта на Ільіча...» — мільганула ў мяне думка. Мароз прабег па спіне».**

Платэн, які засланіў Леніна, быў паранены ў руку.

Калі верыць прызнанням аднаго з контррэвалюцыянераў-тэрарыстаў, тых, хто страляў, было пяцёра. Была падрыхтавана і бомба.

Суцэльны туман, цемната, вузкая слізкая дарога, заціснутая з абодвух бакоў мураванымі дамамі — як жа нялёгка было не трапіць пад кулю і пры гэтым нікуды не ўрэзацца.

Варта нагадаць і пра тыя «гурбы снегу», на якія наракала Крупская. Адпаведна з планам тэрарысты стаялі на вуліцы ў розных месцах на прамым шляху машыны. Завулкі завалены непрыбранымі гурбамі, і тое, што машына, прарываючыся праз снежныя завалы, з ходу завярнула ў адзін з гэтых завулкаў, відаць, зусім зблытала планы тэрарыстаў: аўтамабіль знік.

**«Ад'ехаліся за вугал, — успамінае Гарахавік, — і машына ўрэзалася ў гурбу снегу. Я вылез, адчыніў карэту аўтамабіля і пытаюся:**
**— Усе цэлыя?**
**Чую голас Ільіча:**
**— І на самай справе стралялі?»**

А ў 20.00 Ленін ужо вёў чарговае пасяджэнне Саўнаркома...

**Ю. ЦВЯТКОЎ,**
**кінарэжысёр, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі БССР.**



 

# БОЛЬШ ГАЛОСНАСЦІ, БОЛЬШ ДЭМАКРАТЫІ, БОЛЬШ САЦЫЯЛІЗМУ!

**Споўнілася тры гады з дня красавіцкага (1985 г.) Пленума ЦК КПСС, тры гады мы пражылі пад лозунгам «Больш сацыялізму!»**

**За гэтыя гады калектыўна выпрацаваны канцэпцыя, стратэгія і тактыка перабудовы, дакладна вызначаны яе рэвалюцыйныя прынцыпы. Перабудова, выпакутаваная нашым грамадствам, стала сацыяльнай практыкай, стала сутнасцю нашай паўсядзённасці. Яна ўвайшла ў нас як вобраз думкі і дзеяння. За такі кароткі тэрмін мы ўсе, здаецца, сталі іншымі: такой грамадзянскай актыўнасці, якую паўсюдна бачым цяпер, нашы суграмадзяне не праяўлялі на працягу многіх гадоў, нават дзесяцігоддзяў.**

**Грамадства рашуча ўзялося за вырашэнне самых першачарговых, самых надзённых, самых балючых праблем. Яны не могуць быць вырашаны адміністрацыйна-каманднымі метадамі. Гэтыя метады прывялі краіну да перадкрызіснага стану і сёння з'яўляюцца самым вялікім тормазам на шляху нашай перабудовы. Менавіта яны перашкаджаюць ажыццяўленню радыкальнай эканамічнай рэформы — галоўнага рычага пераўтварэнняў. Менавіта яны перашкаджаюць развіццю дэмакратыі, пастаянна імкнуцца ўвесці «ў рамкі» галоснасць, свабоду слова.**

**Да якога мінулага імкнуцца вярнуць краіну сілы тармажэння? Да застою, сінонім якога распад? Да больш аддаленых гадоў, калі ў краіне парушаўся закон, калі панаваў бездухоўны дэвіз «у нас незамянімых няма»?**

**Савецкія пісьменнікі нямала зрабілі дзеля таго, каб сацыялістычнае грамадства ўсвядоміла сябе, прыйшло да высновы аб неабходнасці рэвалюцыйных перамен. Аб іх ролі ў барацьбе за перабудову, аб актыўнай дзейнасці ў перыяд перабудовы гаворыцца, у прыватнасці, у артыкуле «Прынцыпы перабудовы: рэвалюцыйнасць мыслення і дзеянняў» («Правда», 5 красавіка 1988 года).**

**Публікацыю ў «Правде» савецкія пісьменнікі ўспрынялі як пытанне да сябе: з кім вы, майстры культуры?**

**Мы адказваем адназначна: мы — з рэвалюцыяй, з яе святымі ідэаламі!**

**Небывалая чытацкая актыўнасць, велізарная ўвага народа да нашага пісьменніцкага слова, давер і спадзяванне, з якімі глядзяць на нас нашы суайчыннікі, — усё гэта абавязвае нас, пісьменнікаў, напярэдадні XI партыйнай канферэнцыі рашуча і бескампрамісна заявіць: перад намі адзін шлях — рэвалюцыйная перабудова! Народ і партыя могуць быць абсалютна ўпэўнены: чыстыя ідэалы Вялікай Кастрычніцкай сацыялістычнай рэвалюцыі, да якой заклікалі краіну красавіцкі Пленум ЦК КПСС (1985 г.), XXVII з'езд партыі, наступныя Пленумы ЦК КПСС, мы не аддадзім нікому. З якімі б «платформамі» ні выступалі антыперабудовачныя сілы, якія адстойваюць інтарэсы адміністрацыйна-каманднай сістэмы, якая вычарпала і дыскрэдытавала сябе, ім не ўдасца павесці грамадства за сабой, не ўдасца рэвізаваць і блакіраваць ідэалогію перабудовы.**

**Празаікі і паэты, публіцысты, драматургі, крытыкі, увесь Саюз пісьменнікаў гэтым пісьмом заяўляюць: быць патрыётамі сацыялістычнай Айчыны сёння — значыць быць змагарамі за перабудову!**

**Г. МАРКАЎ, У. КАРПАЎ, М. АЛЯКСЕЕЎ, А. АНАНЬЕЎ, Г. БАКЛАНАЎ, С. БАРУЗДЗІН, Ю. БОНДАРАЎ, Г. БАРАВІК, В. БЫКАЎ, Ю. ВЕРЧАНКА, А. ВАЗНЯСЕНСКІ, Д. ГРАНІН, М. ГРЫБАЧОЎ, Ю. ГРЫБАЎ, М. ГАРБАЧОЎ, І. ДЗЯДКОЎ, А. ДЗЯМЕНЦЬЕЎ, Ю. ДРУНІНА, Я. ЕЎТУШЭНКА, С. ЗАЛЫГІН, А. ІВАНОЎ, Я. ІСАЕЎ, В. КАРОЦІЧ, У. КРУПІН, Ф. КУЗНЯЦОЎ, С. МІХАЛКОЎ, А. МІХАЙЛАЎ, П. НІКАЛАЕЎ, П. ПРАСКУРЫН, Р. РАЖДЗЕСТВЕНСКІ, В. РОЗАЎ, А. САЛЫНСКІ, Я. СІДАРАЎ, К. СКВАРЦОЎ, Ю. СУРАЎЦАЎ, А. ЧАКОЎСКІ, Ю. ЧАРНІЧЭНКА, М. ШАТРОЎ.**

## ЛІТАРАТУРНЫ ПРАЦЭС: НАЗІРАННІ, ЗАЎВАГІ, ДУМКІ

**Згадзіцеся, не так часта здараецца, калі той ці іншы аўтар працягвае на газетных старонках ім жа самім распачатую гаворку. Тым не менш мы палічылі магчымым зноў даць слова Леаніду Дранько-Майсюку, аўтару артыкула «Як» і «навошта»!» («ЛіМ», 17.07.1987). Адначасна сваю пазіцыю выказвае яго старэйшы таварыш Нічыпар Пашкевіч.**

Леанід ДРАНЬКО-МАЙСЮК

# ВІНАВАТЫ МЫ САМІ

АД 17 ЛІПЕНЯ мінулага года, калі быў надрукаваны мой «дыскусійны» артыкул «Як» і «навошта»?», мінулася даволі часу. Ва ўсякім разе часу было дастаткова, каб разгарнулася сапраўдная, незалежная ні ад якога арганізацыйнага прымусу дыскусія. Аднак т а к о й дыскусіі не адбылося — з'яўляліся толькі выпадковыя выступленні-водгукі, у якіх была падтрымка альбо нязгода са мной. Праўда, выключэннем з гэтага шэрагу бачыцца таленавітая публікацыя Тамары Чабан «Між Сцылай і Харыбдай» («ЛіМ», 20.11.1987).

Але затое вусных выказванняў было шмат. Самых розных і нечаканых. Адны мяне хвалілі за «смеласць», другія проста ў вочы называлі дурнем. Трэція выказваліся больш стрымана, на хаду аналізавалі, нават аргументавана аспрэчвалі пэўныя мае вывады. Але ніхто не здагадаўся сесці за стол і выказацца пісьмова, каб распачатая гаворка набыла маштаб усеагульнай нашай заклапочанасці.

У выніку даводзіцца канстатаваць — меў рацыю Анатоль Сідарэвіч, пачаўшы свой артыкул «Азірнуцца і ўбачыць» са скептычнай інтанацыі: «Паэт Леанід Дранько-Майсюк напісаў нататкі «Як» і «навошта»?», а «ЛіМ» надрукаваў іх... у «дыскусійным парадку». Новая дыскусія? Прызнацца, я са скепсісам пазіраю на гэты намер...» («ЛіМ», 2.10.1987).

Скепсіс крытыка небеспадстаўны. Большасці з нас, што трапіла ў зваблівы цень інертнасці, не хочацца вылазіць на «спёку», пісаць там нешта, выступаць у друку — ат, усё пустое, не вартае клопату.

А, можа, я памыляюся і мой артыкул проста не зацікавіў, стаўся, як кажуць, «не праблемным»? Магчыма і такое, хаця мае нешматлікія апаненты выказаліся на гэты конт больш чым пэўна. Вось некалькі цытат **«Праблема...** узнятая ў артыкуле «Як» і «навошта»?»... не новая, яна пераклікаецца з усімі іншымі, даўно набалелымі пытаннямі нашай беларускай літаратуры» (Л. Галубовіч); **«Праблемы...** не надуманыя, не эстэцкія. Яны існуюць з таго часу, як існуе мастацтва, і паўстаюць асабліва востра і надзённа ў крызісныя, паваротныя, абнаўляльныя часы грамадскага і літаратурнага жыцця...» (Т. Чабан); «Аддамо належнае Леаніду Дранько-Майсюку, які, як гаворыцца, «на злом галавы» кінуўся ў **праблему,** што не можа не хваляваць кожнага, хто любіць... роднае слова» (Н. Гальпяровіч); згадаю і рэдакцыйную прэамбулу да майго артыкула: «...Дранько-Майсюк... ставіць **праблему** суадносін сацыяльнага і эстэтычнага ў літаратуры».

Выходзіць, што артыкул усё-такі «праблемны» і, вядома, шмат у чым спрэчны, як і сама тэма гаворкі. Пра ўсё гэта і пагаварыць бы шырэй, паспрачацца. Але замест чаканага дыскусійнага агню папыхвае да апошняга моманту кволае цяпельца рэдкіх водгукаў.

Асабліва мяне здзівіла амаль поўнае маўчанне маіх літаратурных аднагодкаў. Шчыра прызнаюся, я чакаў пачуць галасы Хрысціны Лялько, Алеся Пісьмянкова, Уладзіміра Ягоўдзіка, Ірыны Багдановіч і не толькі іх. Чакаў і не пачуў.

Нездарма Міхась Стральцоў гаварыў мне: «Ваша пакаленне таленавітае, але страшэнна раз'яднанае». А ён, незабыўны Міхась Лявонавіч, рэдка калі памыляўся.

Пафас майго артыкула быў не толькі накіраваны супраць «тэматычнай запланаванасці, вузка і спрошчана зразуметай сацыяльнасці» (Т. Чабан), а ў сваім сэнсавым кірунку меў пытанні, звернутыя, апрача іншых адрасатаў, і да вас, мае сябры па пакаленні,—што мы п а в і н н ы рабіць як беларускія літаратары і чаго мы рабіць н е п а в і н н ы? Яны, гэтыя пытанні, тычыліся перш за ўсё нашай літаратурнай будучыні і будучыні нашых наступнікаў. Працягваць дыпламатычна пісаць «для народа», як гэта ў большасці ў нас і робіцца, альбо пачынаць шчыра пісаць «для сябе»? Вось як ставілася адно з пытанняў. Мастацтва — таямніца ці больш-менш удалыя практыкаванні на тэму «што бачу, тое і пішу»? У такім прыкладна гучанні вынікала з кантэксту гаворкі другое пытанне.

І, нарэшце, можа, не пытанне, а звычайная невясёлая развага. Здавалася б, з кожнай напісанай і выдадзенай кнігай пісьменнік павінен замацоўваць сваю эстэтыку і яшчэ б о л ь ш станавіцца мастаком. А ці не назіраецца ў агульнай нашай пісьменніцкай масе адваротны працэс? Творчасць патроху-патроху, амаль незаўважна перарастае ў кволенькае рамесніцтва, і пісьменнік, нават не думаючы аб тым, прыносіць у выдавецтва свой чарговы неабдымны том не як творца, а як звычайны гандляр.

Сёння нам бракуе бескампрамісных спрэчак і адкрытых літаратурных размоў. Вы, мае сябры па пакаленні, маглі б і яшчэ можаце дапамагчы ўзнікненню цікавай дыскусіі. Патрэбна ваша зацікаўленае слова, бо адна толькі «важнасць і надзённасць праблемы, — як слушна заўважыла ўсё тая ж Т. Чабан, — яшчэ не гарантыя цікавай дыскусіі».

Гэтым артыкулам, у пэўнай ступені «выніковым», я не падводжу канчатковую рысу пад гаворкай, пачатай 17 ліпеня. Я хачу коратка адказаць сваім нешматлікім апанентам, а таксама паспрабаваць зірнуць на некаторыя моманты літаратурнага працэсу з пункту гледжання выдавецкага работніка.

Дык па чарзе.

Паэт Леанід Галубовіч сваё выступленне назваў «Кругі на вадзе». Назва невыпадковая і ўяўляе сабой вобразнае пакепліванне з «нашых літаратурных дыскусій». Вось заключны і вельмі характэрны ў гэтым плане пасаж з ягонага артыкула: «Пакуль жа нашы літаратурныя спрэчкі і дыскусіі нагадваюць мне кругі на вадзе: у рачную размераную плынь кінулі камень, на вадзе — круг, другі,

(Заканчэнне на стар. 6—7).

Нічыпар ПАШКЕВІЧ

# ЗАКЛЮЧНАГА СЛОВА НЕ БУДЗЕ

МЯНЕ нямала здзівіў — аб гэтым трэба сказаць — вясёлы скепсіс, з якога пачаў Анатоль Сідарэвіч свой водгук («ЛіМ» ад 2 кастрычніка 1987 г.) на апублікаваны ў дыскусійным парадку артыкул Леаніда Дранько-Майсюка «Як» і «навошта»?». Новая дыскусія? А ці варта яе, маўляў, пачынаць, калі некаторыя з папярэдніх лімаўскіх дыскусій не надта атрымаліся. Да таго ж аўтар артыкула «ўзяў занадта шырокае кола праблем». Ды яшчэ наша літаратуразнаўства і крытыка — хіба ад іх можна чакаць актыўнасці, калі яны «ўсё яшчэ жывуць у атмасферы «глыбокага задавальнення»?

А тым часам, падхапіўшы адну з заспрэчак, а разам з тым і пацвердзіць (ужо з дапамогай удзельнікаў размовы) актуальную праблемнасць свайго выступлення.

Што ж, сапраўды, здарылася? Чаму такі ўсхваляваны і глабальна заклапочаны лёсам роднай літаратуры голас маладога паэта — ды ў такі час усеагульнага крытычнага агляду нашых звыклых эстэтычных устояў — не ўзняў шырокай хвалі роздуму і спрэчак, сёння нам пільна неабходных?

Прычыны, па-мойму, тут розныя. Адна з іх бачыцца ў тым, што, як зазначыў у сваім артыкуле «Кругі на вадзе» Леанід Галубовіч («ЛіМ» ад 21 жніўня 1987 г.), праблема, узнятая Л. Дранько-Майсюком, не вабіць навізной, «яна пераклікаецца з усімі іншымі, даўно набалелымі пытаннямі нашай беларускай літаратуры». Меў, безумоўна, рацыю і А. Сідарэвіч, кідаючы папрок нашым літаратуразнаўству і крытыцы, якія калі і не жывуць у атмасферы «глыбокага задавальнення» (такое абвінавачванне вельмі ўжо несправядлівае), то пакуль што не настроіліся, як належыць, на новы лад, не знайшлі свайго авангарднага месца ў барацьбе за актывізацыю кранутых у артыкуле тэм, сам горача ўвязаўся ў размову і напісаў нават трохі больш, чымся пачынальнік дыскусіі... Навошта ж тады было сеяць скепсіс і, можа, тым самым адбіваць у іншых жаданне выйсці на дыскусійную трыбуну? Вось жа паспрабуй дагадзі некаторым. Калі з дыскусіямі атрымліваецца часам працяглы перапад — пачынаюцца заўзятыя наракання на рэдакцыі. Калі ж нарэшце запрашаюць да «круглага стала» — чуюцца ўсялякія песімістычныя сумненні...

А ў гэтым выпадку, мне думаецца, больш дарэчы было б якраз пачынаць воклічам радасці і падтрымкі добрай ідэі. Бо ці часта бывае, каб малады паэт так шчыра, спавядальна, без аглядкі публічна загаварыў пра тое, што ў яго і, відаць, некаторых яго творчых равеснікаў на душы, як яны разумеюць сучасную літаратурную і грамадскую сітуацыю і што на шкале ідэйна-эстэтычных праблем лічаць сёння самым важным для роднай літаратуры. Зрэшты, некаторыя ўдзельнікі размовы (Тамара Чабан, Навум Гальпяровіч) ацанілі належным чынам актуальнасць выступлення Дранько-Майсюка і ўбачылі ў ім падставу для шырокага абмену думкамі.

На жаль, пакуль што збываецца змрачнаваты прагноз А. Сідарэвіча: дыскусіі тых маштабаў, на якія спадзяваўся аўтар артыкула, не атрымалася. Спецыяльна напісаныя нешматлікія выступленні-водгукі ды рэплікі, кінутыя некаторымі таварышамі ў кантэксце выступленняў на іншыя тэмы, да таго ж мелі пераважна палемічны характар, і Дранько-Майсюк як бы застаўся на папялішчы свайго замыславатага шматгаяруснага збудавання. Здзіўлены і незадаволены, ён, як бачым, паўторна звярнуўся ў газету, каб «раскатурхаць» сваіх літаратурных аднагодкаў, вывесці іх з-пад «зваблівага ценю інертнасці» на «спёку» шчырых і развіццё мастацкай думкі адпаведна патрабаванням часу. Асобныя, пераважна дэкларацыйныя ўсплёскі высокай патрабавальнасці, заклікі да аб'ектыўнага аналізу літаратурнага працэсу — учарашняга і асабліва сённяшняга — робяцца нашай рэальнай і штодзённай практыкай вельмі нясмела і марудна. Ну а зоны ці ачагі «некрытыкабельнасці» альбо звышдалікатнай «крытыкабельнасці»? Ёсць і яны на карце нашай літаратуры, іх наяўнасць у адчувальнай меры ўплывае на вышыню агульных пазіцый крытыкі, яе паслядоўнасць і маштабы аб'ектыўных абагульненняў.

Няма падстаў думаць, што ў нашых пісьменніцкіх радах не хапае эстэтычна ўзброеных людзей, якім па плячы асэнсаванне самых складаных праблем творчасці. Паглядзіце, з якім бляскам пішуцца нярэдка станоўчыя і хвалебна-адычныя артыкулы, рэцэнзіі і творчыя партрэты! Але калі справа даходзіць да менш «прыемных» патрэб і абавязкаў, да неабходнасці ўзараць бязлітасным плугам задзірванелыя аблогі інертнасці, уяўнай ураджайнасці шмат якіх загонаў мастацкай нівы і яўнай засмечанасці яе пустазеллем, то тут наша крытычная муза пачынае інтэлігентна выкручвацца, а то і проста «біць у хамут».

Разважаючы над вытокамі гэтай з'явы, па-мойму, нельга не бачыць сярод іншых і адзін, так сказаць, псіхалагічна-бытавы яе фактар. Пісьменніцкі калектыў наш параўнаўча невялікі, амаль усе мы звязаны паміж сабой на ўзроўні звычайнага чалавечага знаёмства і «добрасуседства», а ў многіх выпадках—і дружбы, дадам сюды і службовую ўзаемазалежнасць, бо амаль усе пісьменнікі ці то працуюць у творчых установах і арганізацыях, ці то цесна з імі супрацоўнічаюць. І вось паспрабуй пад націскам гэтай «вяскова-абшчыннай» атмасферы захавай у сваёй душы непахісную прын-

(Заканчэнне на стар. 6—7).

У. Гніламёдаў і ягоны папярэднік Л. Галубовіч. І нават шчыра-дапытлівая Т. Чабан не звярнула ўвагі на гэтае прынцыпова-важнае сцвярджэнне: мы, сучасныя беларускія літаратары, у пераважнай сваёй большасці «багата пішам і мала думаем».

Якраз гэтак у беластоцкай «Ніве» назваў свой допіс Аляксандр Анташэвіч. Ён недвухсэнсоўна зразумеў мой галоўны радок, запазычаны для ўласнага загалоўка: «Творы вялікіх пісьменнікаў Беларусі тут ні пры чым...» («Ніва», 23.08.1987).

Ці не адказ гэта У. Гніламёдаву на ягоны папрок мне ў «недаацэнцы класікі»?

Жорстка гаворачы пра дзень сённяшні і ўчарашні, не думаю, што можна агулам «ахаяць» і нігілістычна «закрэсліць» духоўныя набыткі нацыі, глыбіня якіх перш за ўсё вымяраецца дзейнасцю невядомага нам аўтара «Слова...», а таксама дзейнасцю вядомых нам постацей ад Кірылы Тураўскага да Янкі Купалы, і толькі потым — нашымі сённяшнімі «колькаснагустымі» публікацыямі.

Аляксандр Анташэвіч па-свойму «завастрае» і «абагульняе» праблему нашага багатапісання: «У беларускай літаратуры, у яе агульнай кніжнай масе назіраецца, як у аніводнай іншай з суседніх, аж дзве бяды адразу: паводка нізкапробнай творчасці і паміранне нацыянальнай мовы. Зваротныя залежнасці?»

Што ж за «паводка нізкапробнай творчасці» ў яе канкрэтным выяўленні? На жаль, прыкладаў таму шмат, усё не працытуеш.

«Поль Валеры раіў: з двух слоў выбірай карацейшае. Я—за больш дакладнае па сэнсу, гучанні! І свяжэйшае!» («Маладосць», 1983, №6). Гэтыя словы належаць Б. Сачанку, які на практыцы не вельмі прытрымліваецца ўласных правілаў.

Кнігі, кнігі, кнігі... На падыходзе ўсё новая і новая лексічная сыравіна. Кнігарні захлынаюцца і, ратуючыся ад няспыннай паводкі л і ш н і х нашых кніг, выпрацоўваюць свае напаўдырэктыўныя высновы.

Наведаўшы з празаікам Уладзіславам Рубанавым кнігарню ў Бялынічах, я даведаўся пра наступнае. Нераспрададзеную літаратуру спісваць нельга. Кнігі — пераважна двухтомнікі і безліч розных перавыданняў — шчыльна стаяць на паліцах па пяць і болей гадоў. І таму гандляры робяць усё менш і менш новых заказаў, асабліва на кнігі маладых пісьменнікаў, а то і зусім нічога не заказваюць. Пазіцыя зразумелая — а навошта заказваць, ды яшчэ маладых, зусім невядомых аўтараў, калі кнігі вядомых за доўгія гады не прадаць?

Мне вядома, што менавіта па гэтай прычыне бялыніцкія кнігагандляры не заказалі ніводнага экземпляра першых кніжак Алеся Наварыча «Рабкова ноч» і Адама Глобуса «Парк».

Зрэшты, гандляроў я не абвінавачваю. Вінаваты мы самі, бо з двух слоў карацейшага не выбіраем — дапісваем да яго трэцяе. І ўсё робім, каб нас выдавалі і мала таго — перавыдавалі. І не зважаем на тое, што праз гэта кнігам пачынаючых усё цяжэй дайсці да чытача.

Пераканайце мяне, што гэта не так; дакажыце мне, што літаратурнай рэчаіснасці нашай адпавядае іншая формула — «багата пішам і багата думаем». Я буду толькі рады.

тыкула, і гэтая яго самакрытычнасць падкупляе. Але ж справа не толькі ў спрошчанасці, а і ў такіх-сякіх немалаважных «прыпісках» вялікаму паэту ды і ў абстрагаванай універсалізацыі яго гістарычна абумоўленых разважанняў, якія тычыліся адной спецыфічнай з'явы. А. Блок вёў размову **не пра рускіх мастакоў увогуле**, а пра **рускі сімвалізм** («рускае новае мастацтва»), прасочваючы яго эвалюцыю ад выхаду на авансцэну літаратуры да заняпаду і распаду як пэўнай мастацкай плыні. І ніякага «кругазвароту» ўзнятых праблем («у розныя часы... па чарзе») ён не сцвярджаў і не прапаведаваў—наадварот, гаварыў аб «вечным клопаце мастака пра форму і змест» як адзінай і непарыўнай сутнасці творчага працэсу і асобнага творчага акта. А *«расчляненне» мастацкай творчасці* на заўважаную Л. Дранько-Майсюком «трыяду» і раскладка яе ў часе здбыліся ў Блока зусім у іншай сувязі і да агульных заканамернасцей мастацкага працэсу адносін не мелі. Звязаны яны, зноў жа, з гісторыяй сімвалізму.

Адзначыўшы здабыткі сімвалізму, лепшых яго прадстаўнікоў у галіне ўзбагачэння мастацкіх форм творчасці, выяўленчых сродкаў літаратуры («глыбіня зместу душы мастака не была шукаемай велічынёй, яна падразумявалася сама сабой»), А. Блок потым з горыччу і сарказмам канстатуе, што з цягам часу гэтыя прыцягальныя для публікі ўзоры новай вобразнасці абярнуліся лёгкімі штампамі, нарадзілі «плеяды лёгкіх пераймальнікаў», у якіх «не было за душой нічога», але «кішэні былі напакаваны радужнымі паперкамі, забяспечанымі залатым фондам ранейшых дасягненняў». «Форма дадзена—шаблон выпрацаваны, і з фармальным пытаннем «як» мог управіцца любы гімназіст». Вось тады, акрамя пытання «як», што ў свой час «магло быць баявым лозунгам», вырасла і выйшла на *першы план* другое пытанне—аб змесце творчасці. Але, падкрэслім гэтую блокаўскую думку, «узнікла яно перад сапраўднымі мастакамі, якім належала ахоўваць рускую літаратуру ад нашэсця («вторжения») фальсіфікатараў», з патрэбы разабрацца, «што» ёсць за душой у навейшых мастакоў, якія падазрона лёгка авалодалі формамі».

А к таму году, калі быў напісаны цытуемы артыкул, у А. Блока, які, хаця пакуль і не канчаткова, расчараваўся ў эстэтыцы сімвалізму, заснаванай на ідэалістычнай філасофіі, выспела і трэцяе адрасаванае сімвалістам пытанне—пытанне *аб абавязку мастака перад народам*, а не толькі элітарнай публікай, і ў імя гэтага—аб саюзе заклятых, паводле паняццяў сімвалісцкай эстэтыкі, ворагаў: прыгажосці і карысці. Гаворка ішла пра магчымы пераход лепшых прадстаўнікоў сімвалізму на пазіцыі рэалізму.

Канечне, у выказваннях класікаў з повазу нейкіх канкрэтных, прывязаных да пэўнага часу фактаў і з'яў часта можна знайсці заўсёды актуальны, вечны сэнс. У артыкуле А. Блока таксама багата залацінак такога сэнсу. Але ўзятая адтуль Л. Дранько-Майсюком схема трох праблем мастацкай творчасці, ды яшчэ *падпраўленая* ім самім, думаю, да сучаснай нашай літаратурнай сітуацыі не стасуецца і толькі заблытвае шлях да ісціны. Бо сёння аднолькава востра паўстаюць перад намі і праблемы зместу, і праблемы культуры мастацкага слова.

Тут варта зрабіць нядробязны папрок і Тамары Чабан. Развіваючы думку аб катэгорыях прыгажосці і карысці, яна, выкарыстоўваючы вобразы А. Блока, піша ў канцы свайго артыкула, што толькі грамадзянскае сумленне і мастакоўскае чуццё павінны падказаць пісьменніку «ў кожным асобным выпадку, у якой прапорцыі «змешваць» (тут ідуць словы А. Блока.—**Н. П.**) *«душу прыгожага матылька і цела карыснага вярблюда»*. Прабачце, але ж гэта—копія з «суадносін сацыяльнага і эстэтычнага», пра што я гаварыў раней. І вульгарызацыя думкі А. Блока. Давайце будзем уважліва чытаць хоць класікаў! А ў класіка з яго цвярозым, нават скептычным поглядам на вырашэнне гэтага складанага для сімвалізму пытання, між іншым, гаворыцца, што ў дадзеным выпадку «потребуется чудо, вмешательство какого-то Демиурга, который истолчет в одном глубоком чане душу красивой бабочки и тело полезного верблюда, **чтобы явить миру новую, свободную необходимость, сознание прекрасного долга»** (падкрэслена мною.—**Н. П.**). І далей: «Может быть, на высотах будущей трагедии новая душа познает единство прекрасного и должного, красоты и пользы, так, как некогда душа познала это единство в широтах древней народной песни». Як бачым, ні кухарскага змешвання (хоць сабе і ў двукоссі), ні арыфметычных прапорцый ды яшчэ ў рамках аднаго твора («у кожным асобным выпадку»), а вышэйшая *дыялектыка працы* душы і розуму мастацтва, прыроўненай да промыслу Дэміурга і непасрэднасці выяўлення народнага генія ў старажытнай песні! А мы ўводзім у вушы рамеснікаў ад літаратуры, што ўвесь сакрэт стварэння мастацкай рэчы у розных «спалучэннях» і «змешваннях», а потым здзіўляемся, адкуль бярэцца рацыяналістычны прымітыў.

Завяршаючы свае нататкі, я хачу тут з дазволу рэдакцыі «ЛіМа», рассакрэціць матывы свайго выступлення іменна на гэтым этапе дыскусіі. Справа ў тым, што рэдакцыя звярнулася да мяне як члена рэдкалегіі газеты з просьбай у нейкай форме падагуліць узнікшую размову, якой сабе яна ні атрымалася. Але, шчыра кажучы, у гэтай ролі выступаць мне не хацелася. Ды пакуль што я і не бачу патрэбы ў заключным слове. Гаворка, *па-мойму, можа і павінна* мець працяг і яшчэ набраць сілы. Будзем спадзявацца, у прыватнасці, што на заклік Л. Дранько-Майсюка адгукнуцца яго літаратурныя аднагодкі. Пытанне перад імі пастаўлена востра і маштабна—у плане адказнасці за заўтрашні дзень беларускай літаратуры. Сапраўды было б добра, каб яны выйшлі на дыскусійную трыбуну і шчыра, «без дыпламатыі» паразважалі над актуальнымі праблемамі, закранутымі і не закранутымі ў дыскусіі, —як маладыя гаспадары літаратурнай нівы. Чым жыць літаратуры ў час усебаковага абнаўлення духоўнага свету грамадства—над гэтым пытаннем так ці інакш думаюць усе, хто мае да яе дачыненне.

## ДУМКА ЧЫТАЧА

# Якім быць падручніку па мове?

НЕЯК я напаткала сумны жарт Бернарда Шоу: «Падручнік можна акрэсліць як кнігу, непрыдатную для чытання. Я застаўся абсалютна несапсаваным чалавекам таму, што ніколі не мог чытаць падручнікаў. І час, які мне трэба было марнаваць на іх, я траціў на чытанне сапраўдных кніг — кніг, напісаных людзьмі, якія сапраўды ўмеюць пісаць, чаго ніколі не бывае з аўтарамі падручнікаў». Гэтаму жарту больш за паўвека, а ён нібы для нас — сённяшніх, хто вядзе гаворку пра тое, якім быць падручніку пад час школьнай рэформы. Нядаўна перагартала старонкі «Беларускай мовы» — падручніка для 4-га класа школ з рускай мовай навучання. (Аўтары Н. В. Вашчатынская, А. Я. Міхневіч, Л. І. Шаўчэнка. Мн., «Народная асвета», 1986 г.). Перагартала непрадузята, з клопатам чалавека, якому, як і многім, не ўсё роўна, чаму і як вучым на ўроках роднай мовы. Гартала—і радавалася многім старонкам, якія дапамогуць непаседам - чацвёртакласнікам дакрануцца, далучыцца да сілы і красы матчынага слова. Хіба не зацікавяцца дзеткі такім заданнем: замест кропак устаўце назоўнікі, якія зашыфраваны малюнкамі - рэбусамі? Па прыметах адгадайце, пра каго ці пра што гаворыцца ў загадках? Знайдзіце прыметнікі ў загадках. Не церпіцца прывесці дзве з іх:

**На лузе браточкі**
**З аднае сямейкі:**
***Залатыя вочкі,***
**Беленькія вейкі.**
**(Рамонкі).**
**Чырвонае цельца,**
**Каменнае сэрца,**
**Добрая на смак,**
**А завецца як? (Вішня).**

А вось практыкаванне 173 — урывак з пісьма М. Горкага сыну — з густам перакладзены, з любасцю выбраны: «Ты *паехаў, а кветкі, пасаджаныя* табой, засталіся і растуць. Я гляджу на іх, і мне прыемна думаць, што мой сынок пакінуў пасля сябе на Капры нешта добрае—кветкі... Ведай, што заўсёды больш прыемна аддаць, чым узяць».

Вось каб такіх тэкстаў ды паболей у нашы падручнікі — разумных, неназойліва - павучальных, у якіх на дзіва гарманічна спалучаліся б і граматыка, і выхаванне, і жыццёва - вынашаная мудрасць, патрэбная сённяшнім вучням не ў прымітыўных, казённа-бюракратычных пытаннях - заданнях тыпу: «Скажы, як павінен паступіць піянер у гэтым выпадку? Чаму мы павінны вучыцца на прыкладзе гэтага героя? Раскажы, як жылі дзеці да рэвалюцыі».

Але... Але такіх тэкстаў небагата. Найбольш тэкстаў не «абцяжараных» новай інфармацыяй, завельмі павучальных, залішне правільных, сухіх, нецікавых. Адзін толькі прыклад (хаця прыклады можна доўжыць): «Нізкае неба зацягнулася шэрымі воблакамі. На двары холад. Часам выпадае мокры снег. Апала з дрэў апошняе лісце. Дрэвы стаяць голыя. Толькі елкі ды сосны не губляюць сваёй зялёнай красы». Не дзіва, што на падобных прыкладах —з году ў год, з класа ў клас—не развіваюцца, а дэтрэніруюцца разумовыя здольнасці нашых вучняў.

Мы любім у размовах пра родную мову карыстацца эпітэтамі для яе *характарыстыкі:* вобразная, мілагучная, пявучая, мяккая, далікатная. Але ўсё гэта губляецца, раствараецца, калі складальнікі пачынаюць падбіраць сказы, маючы за мэту толькі адно: вылучыць, агаліць пэўную граматычную або лексічную з'яву, калі падтасоўваюць прыклады дзеля расстаноўкі знакаў прыпынку ці дзеля ўстаўкі прапушчаных слоў, літар. Тады *ствараецца* ўражанне: мова, якой вучым у школе, — гэта набор прыставак і каранёў, гэта правільна, ладна падагнаныя коскі і працяжнікі, гэта набор амонімаў, сінонімаў, антонімаў і г. д. І тады вучым, не падкрэсліваючы галоўнага: мова — гэта візітная картка кожнага народа і кожнага з нас, гэта наша духоўная спадчына, якую трэба шанаваць, вывучаць і ўмець *ёю карыстацца.*

Пажадана, каб **кожны** тэкст (успомнім пра славутую лыжку дзёгцю) пры дастатковай насычанасці патрэбнымі граматычнымі формамі — выклікаў цікавасць, эмацыянальныя адносіны вучняў, спрыяў развіццю іх творчасці, мыслення. Гэта — тэарэтычна. Практычна ж у падручніку знаходзім практыкаванні — наборы сказаў, вырваных з кантэксту, *аб'яднаць і апраўдаць* якія можна толькі голай граматыкай. Зноў прыклад: «Імхі ў тундры — корм для аленяў. Густы туман слаўся над іржышчам. Гарачы едкі пот, сплываючы з ілба, засцілае вочы. Ільнаводства — важная галіна народнай гаспадаркі. Поезд імчаў, рассякаючы снежнае мора» і г. д. Такіх практыкаванняў большасць.

І зусім недаацэньваем мы чацвёртакласнікаў, калі падсоўваем ім сказы спрошчана - прымітыўныя. Нашы дзеці і вучні даўно выраслі з такіх сказаў, а мы ўсё шырым іх, плодзім, прапануем як **узор:** «У парце ляжыць партфель». «Чаго прыйшлі дзеці ў лес». «На лузе стаяць стагі сена». «Па вуліцы ідзе Мікалай Патапавіч Чарнавус». (Не ратуюць падобныя сказы і спасылкі на добрых беларускіх пісьменнікаў).

І яшчэ пра адзін аспект, які, на маю думку, павінен прысутнічаць у падручніках, — эмацыянальны. Дазволю сабе напомніць чытачам агульнавядомую ленінскую думку: «Без «чалавечых эмоцый» ніколі не было, няма і быць не можа чалавечых пошукаў ісціны». Мы так любім цытаваць гэтую думку ў сур'ёзных манаграфіях, у адказных выступленнях, але чаму мы забываемся на гэтую ісціну, калі гаворым пра кніжкі, падручнікі для дзяцей? Нібы наша задача — зрабіць з дзятвы (з тых жа чацвёртакласнікаў) зменшаныя копіі мудрых бабулек і дзядулек? Чаму мы *так* баімся жартаваць — разумна, дасціпна—з нашымі вучнямі? Чаму ўсе нашы дыялогі, заданні па мове можна звесці да аднаго дзесятка фармуліровак: «Прачытайце, перакладзіце на рускую (беларускую) мову», «Адкажыце на пытанні і запішыце адказы», «Складзіце *сказы* з прапанаванымі словамі», «Спішыце, устаўляючы прапушчаныя літары», «Спішыце і падкрэсліце», «Перакажыце тэкст»?.. А дзе тое, што абуджае думку дзіцяці, «правакуе» яго на здагадку, кемлівасць, усмешку? Чаму так рэдка ў падручніку можна сустрэць: «А ты як думаеш? Здагадайся і падкажы. Прыдумай. Намалюй. Выправі памылкі» і інш. Мы *абавязаны* вучыць нашых вучняў думаць, выпрацоўваць жаданне самастойна знайсці адказ, рашэнне, самому «вынайсці» правіла. Сухімі фармуліроўкамі і заданнямі гэтага не зробіш.

У гэтых накідах невыпадкова размова скіравана на тэксты, практыкаванні. Удала, з густам падабраныя, строга прадуманыя, у дастатковай колькасці, яны—найважнейшы кампанент падручніка. Асобныя недакладныя, цяжкія фармуліроўкі настаўнік можа выправіць, спрасціць, а сістэму практыкаванняў, якую прапануюць складальнікі, замяніць або немажліва, або вельмі цяжка. Настаўнік жа, нават добры, карыстаецца тым, што падае падручнік. *Пажадана,* каб практыкаванняў пасля кожнага правіла было шмат. У настаўніка павінна быць права выбару.

*Разумею,* што гэтыя накіды не прэтэндуюць на грунтоўную рэцэнзію на падручнік роднай мовы, ды я і не ставіла такой мэты. Хацелася падзяліцца меркаваннямі з зацікаўленымі людзьмі— не дзеля таго, каб ахаяць зробленае. Зусім не! Дзеля таго, каб тыя, хто возьме на сябе адказнасць «пісаць» падручнік, задумаліся, наколькі гэта сур'ёзная і адказная справа. Хацелася б, каб *гаворку* падтрымалі людзі, у чыіх руках непасрэдна лёс і якасць падручнікаў па мове—а значыць, лёс і ўзровень выкладання роднай мовы.

**Л. ВАСЮКОВІЧ,**
**кандыдат філалагічных навук.**
г. Віцебск.

## ВЫСТАЎКІ

# ПЕРШАЯ РЭСПУБЛІКАНСКАЯ...

12 красавіка ў мінскім Палацы мастацтваў адкрылася Першая рэспубліканская выстаўка манументальнага мастацтва, прысвечаная 70-годдзю Ленінскага плана манументальнай прапаганды. Гэта выстаўка—галоўная падзея Тыдня выяўленчага мастацтва, што праходзіць у нашай рэспубліцы.

З некаторымі работамі гледачы ўжо сустракаліся ў мінулыя гады, але большасць экспануецца ўпершыню. Экспазіцыя шматпланавая. Яна апавядае не толькі пра сённяшні дзень манументальнага мастацтва Беларусі, але дае і пэўную гістарычную рэтраспектыву. На дыяпазітывах—роспісы і скульптуры мінулых стагоддзяў, фрагменты манументальна-дэкаратыўнага аздаблення помнікаў дойлідства. Гэта своеасаблівая прэамбула выстаўкі.

Работы мастакоў-манументалістаў, як вядома, не перавозяць з месца на месца як жывапісныя палотны ці графічныя аркушы. Таму натуральна, што большасць твораў прадстаўлены на каляровых фотаздымках (у асноўным аздабленне інтэр'ераў) і на дыяпазітывах (помнікі, мемарыяльныя знакі).

Увесь гэты фотаматэрыял служыць абрамленнем асноўнай часткі экспазіцыі, выяўленню вобразна-пластычных канцэнтаў. Гэта—эскізы ў маштабе, фрагменты кардонаў (эскізаў у натуральным памеры) і фрагменты, выкананыя ў матэрыяле. Глядач нібы наведвае майстэрню манументаліста, бачыць работу на розных этапах. Трэба адзначыць, што ўвогуле ў апошнія гады экспазіцыйны дызайн у Беларусі зрабіў вялікі крок наперад. Гэта відаць і па экспазіцыі цяперашняй выстаўкі. Намецілася тэндэнцыя скарыстоўваць станковы жывапіс ў інтэр'ерах нароўні з фрэскамі ці мазаікамі. Узоры такіх палотнаў таксама ёсць у экспазіцыі. Упершыню так шырока прадстаўлены беларускі вітраж. Розныя напрамкі стылістычных пошукаў дэманструюць скульптары, керамісты.

Тэматычна і вобразна экспазіцыя адлюстроўвае перамены, якія адбыліся ў нядаўні час нават у разуменні тэрміну «манументальная прапаганда». Сёння мы нібы нанава прачытваем славуты ленінскі дэкрэт «Аб помніках рэспублікі». Манументальная прапаганда (якую сёй-той па звычцы разглядае як варыянт нагляднай агітацыі ў бронзе ці бетоне)—гэта праграма адраджэння народнай памяці, увекавечання слаўных імёнаў і падзей шматвяковай гісторыі Айчыны, стварэння паўнацэннага эстэтычнага асяроддзя для нас і нашых нашчадкаў.

В. БОГУШ.



Аб'емна-прасторавая кампазіцыя «Вясна». Аўтар — Я. ШЫБНЕЎ.



С. РАБАШЧУК. «Ля старога дрэва».



А. ЖГУН. Кардон роспісу «Мой край» для Вілейскага Дома культуры.



У выставачнай зале

I

Рассыпалася на мноства дробных эпізодаў фестывальная дыскусія. А шкада. Дзевяць дзён стракатага і насычанага музычнага жыцця Мінска былі вартыя грунтоўнай выніковай размовы за «круглым сталом». Не той, якая адбылася ў Саюзе кампазітараў 10 красавіка.

Дарэчы, на працягу гадзіны яе трансліравалі ў «жывы» эфір. Тэлегледачы маглі пераканацца, што гаворку ўдзельнікаў дыскусіі нібы ганяла ветрам: ад настальгіі па высокадухоўнай музыцы — да пытанняў арганізацыі фестывалю, ад зычлівых пажаданняў Дзяржаўнаму канцэртнаму аркестру Беларусі — да агульнай канстатацыі «сярэдзіннага» ўзроўню сённяшняй беларускай музыкі... Чамусьці адзіным канкрэтным абраннікам палемікі аказаўся Фартэпіянны канцэрт маскоўскага аўтара В. Кікты; музыка беларускіх кампазітараў, шырока прадстаўленая на фестывалі, апынулася ў колцы недагаворак.

Калі трансляцыя скончылася і тэлевізійшчыкі прыбралі свае мікрафоны, камеры і лямпы, удзельнікаў дыскусіі паменела, а сама яна ўжо больш нагадвала сварку. Было тут і няўменне слухаць партнёра, і дзіўны нядобразычлівы тон, і звычка падмяняць творчыя пярэчанні асабістымі падрахункамі.

Модным тэрмінам «галоснасць» не прыкрыеш адсутнасць культуры зносін. Галоснасць — не значыць «нявыхаванасць», «нетактоўнасць». Яна не скасоўвае культуру спрэчкі... Скажаце, гэта ад недахопу спажывы духоўнай ці ад творчага лайдацтва людзі-музыканты пачынаюць, што называецца, есці адно аднаго? Тады хіба варта ім збірацца пад шыльдаю саюза!

**Зрэшты, многія яго члены на дыскусію проста не пайшлі. Далёка не ўсе хадзілі на канцэрты ў філармонію. І толькі некалькі цікаўных самотнікаў наведваліся ў саюз на пасяджэнні выязнога пленума камісіі па сімфанічнай музыцы СК СССР. Магу зразумець тых, каму абрыдлі так званыя свойскія дыскусіі. Паспачуваю чалавеку, у якога алергія на сярэднюю, не ім напісаную, музыку. А вось абыякавасць людзей творчых, найперш моладзі, да сімфанічных навінак тлумачыць не бяруся.**

**На «бліскучую адсутнасць» гаспадароў саюзаўскай залы звярталі ўвагу нашы госці з іншых рэспублік. Здзіўляліся: чаму беларускія кампазітары такія абыякавыя да спраў сваіх калег, да таго, чым жыве сучасная сімфанічная музыка! Слуханне новага — як чытанне свежых газет. Рэспублікі ж амаль не абменьваюцца музычнай інфармацыяй, а на ўсесаюзныя пленумы не могуць патрапіць усе, хто хоча. Колькі наракаюць нашы творцы: маўляў, мы варымся ва ўласным соку, нам бракуе інфармаванасці, кантактаў, прапаганды сваёй музыкі. Колькі было зроблена для таго, каб да нас павярнуліся тварам, да нас прыехалі з розных канцоў Саюза! Мы ж... паказалі сваю шырокую спіну.**

А была ж магчымасць паслухаць не толькі фанаграмы з новай музыкай, але і гаворку пра яе, даведацца пра ўзровень крытэрыяў і меркаванняў нашых гасцей. Амаль усе яны гаварылі вобразна і эмацыянальна, жывою чалавечаю мовай. Пра майстра сімфанізму А. Тэртэрана нават заўважылі: «Ён паказаў музыказнаўства на вышэйшым узроўні». Як ні прыкра,— «нашы так не ўмеюць». І навучыцца, па ўсім відаць, не хочуць. (Памятаеце хор купцоў з оперы «Садко»: «У нас всяк себе сам больший-набольший»?).

Хоць і ёсць у нашым саюзе неардынарны чалавек, захоплены спецыяліст, кіраўнік секцыі крытыкі Т. Шчарбакова, нефармальнага лідэра крытычнай думкі там няма. Быў бы знайшоў бы камертон для дыскусіі, не пайшла б яна самацёкам, пры ўсёй паліфаніі тэм набыла б акрэслены кірунак, глыбіню, палемічнасць. Можа, наступным разам атрымаецца інакш?

II

Музычнае паветра першай красавіцкай дэкады жывілася філарманічнымі канцэртамі і тымі творамі, запісы якіх слухалі ўдзельнікі выязнога пле



Г. МАКАРАВА (Ганна) і С. ПЛОТНІКАЎ (Васіль) у фільме І. Дабралюбава «Восеньскія сны».

## КІНО

# «Беларусьфільм»: РЭВАЛЮЦЫЯ АДМЯНЯЕЦЦА?..

**З 19 па 26 сакавіка ў Рэспубліканскім Доме кіно праходзіў XVI агляд-конкурс мастацкіх, хранікальна-дакументальных, навукова-папулярных, мультыплікацыйных фільмаў і кінаперыёдыкі вытворчасці кінастудыі «Беларусьфільм» 1987 года. Вынікі традыцыйных кінааглядзін былі падсумаваны на заключнай навукова-практычнай канферэнцыі, у якой прынялі ўдзел ленінградскі рэжысёр А. Герман (старшыня журы мастацкіх і мультыплікацыйных фільмаў), пісьменніца С. Алексіевіч (старшыня журы хранікальна-дакументальных, навукова-папулярных фільмаў і кінаперыёдыкі), дзеячы кіно і крытыкі В. Нячай, Б. Берман (Масква), С. Кармаліта (Ленінград), Т. Логінава, Я. Ігнацьеў, Г. Ратнікаў і іншыя.**

**Прапануем увазе чытачоў нататкі маладога кінакрытыка А. Сільвановіча пра мастацкія стужкі сёлетняга агляду-конкурсу; агляд хранікальна-дакументальных і навукова-папулярных фільмаў «ЛіМ» мяркуе змясціць у бліжэйшых нумарах.**

ЛЕТАСЬ на студыі «Беларусьфільм» актыўна распачалася перабудова ўсёй структуры кінавытворчасці. Мэта—сур'ёзнае павышэнне ідэйна-мастацкага ўзроўню і важкасці ўкладу беларускіх творцаў у кінематограф краіны. Прынамсі, так абвясцілі прадстаўнікі кінастудыі на адкрыцці чарговага, XVI штогадняга агляду-конкурсу кінавытворчасці 1987 года. Але мінулы год, на жаль, не зрабіўся пераломным. Падобна на тое, што беларускім кінематаграфістам ніяк не ўдаецца выбіцца на шлях пасталення. Маю на ўвазе не прафесіяналізм у кожнай кінаспецыяльнасці, а прафесіяналізм здымачных груп, які ўсё-такі правяраецца па гатовай прадукцыі. Прадукцыя—ёсць, дзесяць ігравых карцін, сярод якіх фільмы вядучых рэжысёраў студыі В. Турава, І. Дабралюбава, Л. Нячаева, В. Рубінчыка, а вось кіно—мала...

Нават паводле ацэнкі гледацкага журы, якую атрымала ў гэтым годзе праца беларускіх кінематаграфістаў, толькі тры стужкі «выбіліся» вышэй за «чацвёрку» («Адступнік»—4,3 бала, «Восеньскія сны»—4,2 бала, «Пітэр Пэн»—4,7 бала), астатнія так і засталіся ў «ціхіх троечніках». Журы конкурсу ігравых карцін, на чале якога стаяў ленінградскі кінарэжысёр А. Герман, вырашыла сёлета (як, прынамсі, і летась) прыза за рэжысуру не прысуджаць. А дыпломы, амаль што ўсе, сабраў фільм В. Рубінчыка «Адступнік».

Вядома, калі разглядаць твор Рубінчыка на агульным фоне прадукцыі нашай кінастудыі, дык, зразумела, ён і мусіў атрымаць галоўны прыз за рэжысуру. Але А. Герман, на маю думку, прапанаваў адзіна правільную сістэму каардынат, паводле якой «правяраўся» кожны фільм. Ён проста назваў рэчы сваімі імёнамі...

Конкурсная праграма, такім чынам, была падзелена на дзве часткі: фільм «Адступнік» і астатнія работы. Крытэрый падзелу—эстэтычны. І справа не ў колькасці прызоў ці балаў гледацкай прыязнасці. Фільм Рубінчыка нагадаў, што кінематограф мае візуальную прыроду: гэта адзін з самых прыгожых фільмаў, якія мне давялося бачыць. Ён вабіць кампазіцыйнай выверанасцю, прадуманасцю мастацкіх рашэнняў, дакладна вытрыманымі гарнітурамі і інтэр'ерамі, узнёслай працай акцёраў. Можна захапляцца тым, як гэта зроблена, толькі «дзіцячае» пытанне — што ж зроблена—мусіць працверазіць гарачую захопленасць. Мне падаецца, што рэжысёру бракавала моцнай, дыхтоўнай сцэнарнай асновы. Канкрэтны змест фільма пярэчыць яго ўмоўнай форме. Рэжысёру не ўдалося зусім адарвацца ад сатырычнага памфлета «Пяць прэзідэнтаў», напісанага дваццаць гадоў назад. Разам з аператарам карціны Ю. Ялховым Рубінчык стварыў асаблівую чароўнасць, шарм, далікатнасць кадра, але размовы — дыялогі, у прыватнасці, былі занадта «напісанымі», каб зліцца з прапанаванымі кінематаграфічнымі вобразамі. Фільм ператварыўся ва «ўяўную аплявуху ўяўнаму імперыялізму» (выраз А. Германа).



Г. ГЛАДЗІИ (Мілер) у фільме В. Рубінчыка «Адступнік».

Мушу, аднак, заўважыць: фільм «Адступнік» можна аднесці да сапраўдных здабыткаў «Беларусьфільма». Вопыту здымак падобных стужак на Беларусі яшчэ няма. Да таго ж, менавіта «Адступнік» прадэманстраваў высокі ўзровень прафесійнага майстэрства ўсіх, хто ствараў карціну,—мастакоў па грыме, касцюмах, святлу; аператара, гукааператара і іншых.

РЫЗЫКНУ аднесці да мастацкіх здабыткаў і фільм І. Дабралюбава «Восеньскія сны», пастаўлены паводле сцэнарыя А. Дударава, хоць якіх толькі «цэтлікаў» ні чапляюць на стужку: «пошласць», «кітч», «прафесійная безгустоўшчына»... Мой калега-крытык далікатна папракнуў «Восеньскія сны» ў «тэатральшчыне». Але гэта, лічу, не абвінавачванне, а падкрэсліванне спецыфікі відовішча. Натуральна, што п'еса, якая сталася асновай сцэнарыя, надала фільму ёмістыя, глыбокія дыялогі, форму і меру тэатральнай умоўнасці.

І. Дабралюбаў і не спрабуе пераадолець умоўнасць дзеяння: кадры статычныя, камера занатоўвае ўсе падрабязнасці акцёрскага пражывання роляў Г. Макаравай, Б. Новікавым і С. Плотнікавым. На жыцці кожнага героя стужкі адбілася гісторыя народа і дзяржавы. Той, хто захаваў у сабе маральны стрыжань — адданасць роднай зямлі, — застаўся з чыстым сумленнем; менш цвёрдых «захліснулі» супярэчлівыя загады, указанні і дырэктывы, збілі, скалечылі, зламалі. Шчаслівыя Васіль і Ганна—іх чакае свой дом, зямля. Пакутуе і стогне па начах Мікіта-Гастрыт, які ўсё жыццё з «чайнікам па ваду прахадзіў». Фільм паступова з камедыі робіцца драмаю. Драматызм—не толькі ў маналогах герояў, але і ў кадрах з несабранымі яблыкамі, асірацелымі хатамі, бярвеннямі, паточанымі шашалем... Ва ўсім—запусценне і паступовы адыход... Шчымлівая музычная тэма (кампазітар—А. Пятроў) падкрэслівае трагікамічнасць стужкі: смех і слёзы немагчымы адно без другога, як немагчыма быць Ганне без Васіля, а Васілю без Мікіты...

Час ад часу старыя сняць «восеньскія сны». Спачатку падаецца, што ўвядзенне сноў—то сюррэалістычных, то сімвалічных—спатрэбілася рэжысёру, каб «перамагчы» слова выявай, але гэтыя «сны» былі заяўлены ў сцэнарыі. На жаль, два вобразы—літаратурны і кінематаграфічны—не супалі... Ці не варта было адштурхнуцца ад літаратуры і пашукаць якой візуальнай адпаведнасці слову?

А так—шмат якія сны (запатрабаваўшы, дарэчы, камбінаваных здымак ці складаных хімічных рэакцый) выглядаюць фокусамі, некаторыя і проста ненатуральнымі, безгустоўнымі, бо выбіваюцца са стылістыкі фільма. Такое несупадзенне ўмоўнасцей сапсавала фінал стужкі: быццам памірае Мікіта, а мы, гледзячы, усё чакаем: мо гэта чарговы сон? Фраза Васіля: «Зразумець ты паспеў, зрабіць толькі нічога не паспеў», — «вісне», спараджае, у лепшым выпадку, меладраматычныя інтанацыі, а фільм жа распавядаў нам зусім пра іншае і—па-іншаму.

СЁННЯ шмат якія падзеі другой сусветнай вайны—тыя, што здаваліся нам даўно зразумелымі і асэнсаванымі, пераглядаюцца, пераасэнсоўваюцца, але зварот рэжысёра В. Турава да ўзаемаадносінах Польшчы і СССР да і пад час вайны ўражвае сваёй грамадзянскай адвагай. Горкая і не надта прыемная праўда, далёкая ад хрэстаматый па гісторыі, знаходзіць сваё адлюстраванне ў фільме «Пераправа». Праўда, пахапкам, у тэксце: Армія Краёва і польскі ўрад у Лондане, армія Людова і савецкія войскі—усе змагаюцца з фашызмам, але не разам. Паміж людзьмі і арміямі пралегла бездань, і вінаватыя ў гэтым не адны палякі...

Карціна «Пераправа» маштабная: дзеянне адбываецца то ў нямецкім тыле, то ў злучэннях Арміі Краёвай, то на пераправе савецкіх войск праз Буг. Вясной сорак чацвёртага палякі ставяцца да савецкіх вызваліцеляў яшчэ вельмі і вельмі неадназначна. Шмат хто з іх яшчэ згадвае пра конніцу Будзённага, у польскіх войсках ёсць людзі, якія разам з Пілсудскім адыходзілі з-пад Кіева.... Зразумела, што на пераправе савецкаму камандаванню даводзілася вырашаць не толькі вайсковыя задачы. Усю гэтую палітычную складанасць Тураву выявіць удалося, але шкада, што выключна праз словы, словы, словы...

Няглядзячы на пастаянны марш у бок Яноўскіх лясоў і вайсковыя баталіі, фільм выглядае нерухомым: пазіцыі бакоў вызначаны ад самага пачатку і развіцця практычна не атрымліваюць. Увагу рэжысёра, па ўсім відаць, адабрала вызначэнне «правільнага» погляду на падзеі. Менавіта таму з фільма знікае гістарычная шматмернасць і ён робіцца крыху аднастайным. Аднастайнасць (і адназначнасць) заяўлена на самым пачатку, калі «ў сутык» манціруецца польская моладзь у дыскатэцы і — могілкі на дзяды з тысячамі запаленых свечак. Гэтая аднастайнасць (і адназначнасць) факусіруецца ў фінале стужкі, калі рэшткі атрадаў Арміі Краёвай, не пагадзіўшыся на сумесныя дзеянні з Савецкай Арміяй, гінуць, акружаныя немцамі. Фільму замінае млявасць інтрыгі. Не ратуе і гераічны разведчык, які дзейнічае ў Варшаве і здабывае каштоўныя звесткі для савецкіх войск. Дарэчы, менавіта эпізоды з ягоным удзелам мусілі прыцягнуць цікавасць гледачоў. Мусілі, ды не здолелі.

Тураў імкнецца ўзняць і разгледзець надзвычай складанае палітычнае пытанне, а ствараe публіцыстычны артыкул. Фільм не ўзрушае, не вымагае спачування да сваіх герояў. Час ад часу рэжысёр цытуе свае мінулыя работы, а тады мы раптам згадваем, які Тураў майстар, як ён дакладна і далікатна адчувае кінематаграфічную выразнасць у чорна-белым кіно. Можна пагадзіцца з А. Германам, што каляровы фільм «Пераправа» не зрабіўся колеравым. Фарбы толькі выкрылі ўмоўнасць і бутафорнасць дзеяння: бой на вышыні, салдаты, якія тонуць у багне пасярод кветак... Фільм «Пераправа» рызыкуе «праваліцца» і ў пракаце,— хоць бы з-за сваёй неверагоднай даўжыні (больш за тры гадзіны), калі, вядома, з яго не зробяць тэлевізійны варыянт на чатыры серыі.



Б. НЯЎЗОРАЎ (Судакоў) у фільме В. Турава «Пераправа».
Фота А. ДЗМІТРЫЕВА.

ШОСТЫ фільм «За парогам перамогі» (рэжысёр Б. Сцяпанаў) тэлевізійнага серыялу «Дзяржаўная граніца» не зрабіўся ўпрыгожаннем серыялу і здабыткам студыі. Карціна адкрыта прэтэндуе на простае забаўлянне, аднак гэтая ўстаноўка — шкодная і небяспечная. Трагічныя старонкі гісторыі адаптуюцца і ператвараюцца ў фон для сюжэта, без аналізу і асэнсавання, без усялякага роздуму.

Пасляваенная Украіна. Банды аунаўцаў. «Нашы» закідваюць да «іх» свайго разведчыка, які ўсіх хвацка абдурвае і спрытна перамагае. У кіно як у кіно: прыгажуні-каханкі бандыта і галоўнага героя акажуцца роднымі сёстрамі; пагранічнікі страляюць, не прыцэльваючыся, і трапляюць, у каго трэба; пасля канчатковай перамогі над усімі бандамі (а яны сабраліся на сустрэчу з кадравым амерыканскім рэзідэнтам) гледачоў «дабівае» фінальны дыялог: «Што гэта, таварыш маёр?» — «Гэта, Садыкаў, канец варожаму логаву!»

Фільм непадробна сумны, да таго ж расцягнуты на дзве серыі. Гісторыя не вінавата ў тым, што намаганнямі няздатных сцэнарыстаў ператвараецца ў набор зацяганых сюжэтаў. Вядома, Б. Сцяпанаву як рэжысёру можна і паспачуваць, але калі ён кладзе ў аснову твора, мякка кажучы, звыклую схему, дык «расквеціць» яе запамінальнымі характарамі — ягоная прафесійная задача. У стужцы ж персанажы настолькі невыразныя, што не падымаюцца вышэй за драматургію; здольныя акцёры выглядаюць шэра і ненатуральна. Бадай што адна му К. Сцепанкову ўдалося ў прапанаванай драматургамі схеме надаць свайму герою жывое абліччы. Астатнія выканаўцы аддалі перавагу найгрышу: позіркі з-пад ілба, сцятыя зубы, жаўлакі на скулах — гэта ліхадзеі, падцягнутыя «па статуту» — пагранічнікі...

У ПРАГРАМЕ сёлетняга кінаагляду былі і фільмы, якія беларускім кінематаграфістам удаюцца вельмі рэдка. Маю на ўвазе стужкі «пра сучаснасць»: «Загад» (рэжысёр Ю. Аксанчанка), «Рэпетытар» (рэжысёр Л. Нячаеў), «Хочаце — кахайце, хочаце — не...» (рэжысёр У. Ко-

лас), другая серыя фільма «Пушча» (рэжысёр В. Урагаў). Уся гэтая «абойма» фільмаў здзіўляе той складанай працай, тым непадробным імпэтам, з якімі рэжысёры вышуквалі надзвычай мізэрныя канфлікты. Адчуванне такое, што ўсё гэта здымалася гадоў пятнаццаць назад.

Мо Л. Нячаеў па-простаму вырашыў адпачыць ад дзіцячага кіно, узяўшыся за старую п'есу Г. Палонскага — «историю несостоявшейся любви молодого столичного философа и девушки со спасательной станции», як сказана ў анатацыі? Аўтары фільма з какетлівай назвай «Хочаце — кахайце, хочаце — не...» уздымаюць побытавыя праблемы, якія могуць падацца дробнымі і не вартымі ўвагі. Але што рабіць тым, у каго з гэтых праблем складаецца жыццё і з-за іх невырашальнасці — разбураецца, быццам пытаюць нас аўтары. І мы быццам даём ім веры: быццам па дарозе даганяем жанчыну, зазіраем ёй у твар, але варта толькі ёй знікнуць у натоўпе, хуценька забываемся і на яе, і на «праблемы»... Памятаем толькі пра назалелую праставатую драматургію, пра рыхлыя дыялогі (праўда, з ценем дасціпнасці) — іх не ратуюць таленавітыя акцёры Н. Ажэлітэ і А. Булдакоў.

Фільм «Пушча» схіляецца да эпічнасці, убірае ў сябе падзеі двух стагоддзяў. Здавалася б, што стагоддзе дваццатае мусіць болей удацца дэбютанту В. Урагаву, але, нягледзячы на гэткую касцюміраванасць, першая серыя выглядае куды больш прывабна: характары больш «шчыльныя», арганічныя, канфлікты паўнакроўныя, важкія. Тут ёсць і вобраз самой пушчы — захавальніцы народнай мудрасці, сілы. «Памрэ пушча, памруць і людзі»,— скажа графскаму ляснічаму Дзед (вобраз хутчэй фальклорны, а не побытавы). Увесь час хочацца слухаць яго: ягоны тэкст больш важкі і поўны, чым адмысловая спрэчка навукоўцаў. Другая серыя глуміць усё... пошукамі сюжэтных сувязей з першай. Канфлікт драбнее (акцэнт нечакана пераносіцца на інтымныя адносіны галоўнага героя — дырэктара леспрамгаса), а пасля і зусім знікае...

Уражаннямі ад XVI агляду-конкурсу з крытыкамі і гледачамі супрацоўнікі кінастудыі падзяліцца не схацелі. Мабыць, менавіта таму не прыйшлі на заключную канферэнцыю мастацкія кіраўнікі творчых аб'яднанняў?

Ад каго, у такім разе, чакаць аздараўлення на кінастудыі? Ад маладых? Але калі стаўленне да іх не зменіцца, дык можна прадказаць кіраўнікам нашага кіно яшчэ больш складаныя часіны. Бо той, хто ўвайшоў у склад «маладога атрада» з невялікім актывам кароткаметражных стужак, ужо да дэбюта ў вялікім кіно паспяхова засвоіў «правілы гульні» — даваць «планавыя адзінкі». Таму ў бліжэйшы час рэвалюцыя на «Беларусьфільме» адмяняецца. Удакладню: я не заклікаю бунтаваць супраць традыцый. Я заклікаю маладых кінематаграфістаў выступіць супраць штампаў, якія падкрэслена называюцца «традыцыямі».

І апошняе. Прадбачу: хтосьці заўважыць пэўнае супадзенне маіх думак са сказаным на заключнай канферэнцыі А. Германам. Што ж, на першынстве я настойваць не буду. Толькі прашу асабліва не засяроджвацца на высвятленні, «хто першы сказаў», а больш цвяроза зірнуць на сітуацыю, якая складаецца цяпер у беларускім кіно.

Вынікі сёлетняга агляду-конкурсу яе нам красамоўна прадэманстравалі.

**Алег СІЛЬВАНОВІЧ.**

## СЛУЖБА ЗВАРОТНАЙ СУВЯЗІ

# Што вы думаеце— пра новы рытуал?

**Чытачы абмяркоўваюць прапанову Беларускага фонду культуры аб Дні памяці**

**Зварот** прэзідыума праўлення Беларускага аддзялення фонду культуры і запрашэнне выказаць думкі наконт правядзення Дня памяці, надрукаваныя ў «ЛіМе» 18 сакавіка, прымусілі напісаць гэты ліст.

Не магу пагадзіцца з прапановай праўлення Фонду культуры адзначыць Дзень памяці ў апошнюю суботу красавіка. Яно так, што людзі прыбіраюць вясной магілы блізкіх, садзяць на іх кветкі. Так, дарэчы, раблю і я. Але робіцца гэта ў хвіліну вольную ад веснавых работ, бліжэй да лета ці ў пачатку лета. Адразу відаць — прапануюць гараджане, адарваныя ад сельскай гаспадаркі людзі. Вядома ж, вясной сяляне не маюць перадыху: капаюць, сеюць, барануюць. Нават на Першамай ды ў Дзень Перамогі яны на палетках, у працы. Дык давайце памятаць пра гэта. Тым больш, што апошняй субоце красавіка звычайна папярэднічае Усесаюзны камуністычны суботнік. Гэта адзін аспект праблемы.

А як жа з пачуццямі чалавека, яго душэўным настроем? Вясной прырода абуджаецца пасля зімовых завірух, з'яўляюцца першацветы, кранаюцца зялянінай дрэўцы, весела і рупліва шчабечуць птушкі. Неяк зусім не прыходзяць думкі аб смерці, аб халоднай і вечнай незваротнай зіме. Спявае душа, радуецца доўгачаканаму цёпламу ветрыку і лагоднаму сонейку, горнецца да кволай, але маладзенькай траўкі; агортвае вера ў непарушны ход часу і ўласнае бяссмерце. Якраз аб гэтым, пэўна, і не падумалі ў Фондзе культуры, хоць і напамінаюць пра асаблівы змест і настрой.

А як быць з праконвечнымі «Дзядамі», праконвечным днём памяці нашых продкаў? Трэба прызнацца, нашы продкі мелі рацыю, адзначаючы «Дзяды» першага лістапада: завершаны палявыя сельгасработы і ёсць вольны час.

Я адзін з тых, хто шануе Дзень памяці. Маладзейшым калі-нікалі ленаваўся схадзіць на могілкі, але пасля смерці бацькоў у гэты дзень я абавязкова там, дзе знайшлі вечны прытулак мой старэйшы брат і шмат сваякоў, дзяды і бацькі мае — мае карані, мой боль і смутак. І не толькі аб родных і блізкіх роздум у гэты дзень. І пакуль жывы сам, будзе жыць мая ўдзячная памяць у гэты мой лістападаўскі дзень памяці. Радуе штогадовы прыток моладзі, тое, што гэты дзень становіцца іхнім, уваходзіць у іх жыццё і свядомасць, неабходны ім.

Зыходзячы з усяго сказанага, прапаную Дзень памяці адзначаць у першую нядзелю лістапада, ва ўсякім разе, восенню і ў нядзелю.

Якім хачу бачыць гэты Дзень? Прыспушчаныя сцягі над урадавымі і іншымі дзяржаўнымі ўстановамі — як даніна ўдзячнасці за працу і жыццё памёршым грамадзянам дзяржавы, як адзнака нашай памяці і жалобы. Радыё і тэлебачанне перадаюць нягучную і трошкі сумнаватую, што наводзіць на роздум, музыку. Недзе ў гадзіны дзве ці тры дня, адначасова па ўсёй рэспубліцы, пачынаюцца мітынгі. Аб'яўляецца хвіліна маўчання. І толькі па радыё гучыць, павольна затухаючы, гук метранома. На працягу ўсяго мітынгу няхай гучыць жалобная музыка.

У гэты дзень непатрэбны гучныя і халодныя парадныя словы. Галоўнае — чуласць, добразычлівасць і пачуццё такту.

**Т. МАЕЎСКІ,**
**вядучы інжынер Мінскага навукова-даследчага прыборабудаўнічага інстытута.**

●

**Для таго,** каб правесці такое важнае мерапрыемства, як Дзень памяці, неабходна, я лічу, перш за ўсё навесці парадак на могілках. На жаль, большасць з іх, асабліва ў сельскай мясцовасці, у занядбаным стане.

Неабходна навесці чысціню на могілках, пасадзіць маладыя дрэўцы, расчысціць дарожкі і г.д. Асаблівы клопат, безумоўна, — магілам загінуўшых у гады Вялікай Айчыннай і воінаў-інтэрнацыяналістаў.

Шэфства над магіламі павінны ўзяць на сябе перш за ўсё школы, вышэйшыя навучальныя ўстановы, камсамольскія арганізацыі, саветы ветэранаў. Шмат яшчэ ёсць безыменных магіл. Тут трэба папрацаваць пошукавым атрадам — піянерам і камсамольцам.

Вось калі мы навядзём парадак на могілках, трэба будзе як след падумаць і над рытуалам Дня памяці.

**А. АНЦІПОВІЧ,**
**эканаміст.**

г. Мінск.

●

**На мой погляд,** самы верагодны тэрмін для правядзення Дня памяці — 8-га мая. Чаму менавіта напярэдадні Дня Перамогі? Ды таму, што больш вялікіх ахвяр, чым у гады Вялікай Айчыннай вайны, ніколі не было. І яны заўсёды ў памяці народнай. Прама ці ўскосна памяць аб памёршых родных і блізкіх цесна звязана з памяццю пра тую вайну. Дзень Перамогі — святы дзень для мужчын і жанчын, для старых і дзяцей, для атэістаў і веруючых, для гараджан і вяскоўцаў, словам, літаральна для ўсіх савецкіх людзей. Таму і стаўлю подпіс, каб Дзень памяці быў штогод 8-га мая.

**В. АРЦЕМ'ЕЎ,**
**член КПСС з 1951 года, ветэран працы.**

**У рэдакцыю «ЛіМа» звярнуўся настаўнік, аматар-краязнаўца з вёскі Заполле Івацэвіцкага раёна Брэсцкай вобласці А. Зайка з просьбай расказаць аб створанай нядаўна краязнаўчай камісіі пры Беларускім фондзе культуры.**

**Наш карэспандэнт сустрэўся са старшынёй камісіі, кандыдатам гістарычных навук Г. А. Кахаsucc.**

# КРАЯЗНАЎСТВА— КЛОПАТ МНОГІХ

**— Генадзь Аляксандравіч, якімі патрэбамі было абумоўлена стварэнне краязнаўчай камісіі, якую вы ўзначальваеце?**

— Створаная ў канцы мінулага года краязнаўчая камісія пры Беларускім фондзе культуры распачала работу па вывучэнні ўсіх аспектаў і кірункаў сваёй дзейнасці. Успамінаем пры гэтым вопыт беларускіх краязнаўцаў дакастрычніцкага часу, а таксама вопыт тых даследчыкаў, што групаваліся вакол часопіса «Наш край» і аб'ядноўваліся пад эгідай цэнтральнага бюро краязнаўства ў даваенныя 20-я і 30-я гады.

Клопатаў шмат, бо быў час, калі краязнаўства ў нас па сутнасці не было, і калі нешта рабілася, то толькі энтузіязмам асобных людзей. А як «лёгка» жылося гэтым энтузіястам, можна бачыць на прыкладзе хоць бы А. Белакоза з Гудзевіч. Толькі нядаўна па-сапраўднаму ацанілі яго заслугі і надалі яму годнасць заслужанага работніка культуры Беларусі. Пра ажыўленне краязнаўчага руху мала хто гаварыў. Быў час, калі музеі згортваліся, а экспанаты перадаваліся ў іншыя. Пасля зноў адраджаліся, толькі чамусьці ім надавалі новы накірунак — народнай славы, а што гэта такое — толкам ніхто не ведаў. На думку тых, хто падштурхоўваў да такой пабудовы экспазіцый, марылася паказаць край з перадавой сельскай гаспадаркай, прамысловасцю, з галерэямі герояў. Зразумела, ніхто не пярэчыць супраць гэтага, але ж ці варта пры гэтым замоўчваць цэлыя этапы гісторыі? Даходзіла да парадоксаў: у некаторых музеях народнай славы адсутнічаў паказ народных выступленняў супраць царызму і ўвогуле дакастрычніцкі перыяд. Часта ў краязнаўчых музеях было мала менавіта краязнаўцаў, тых, хто б апантана вывучаў свае мясціны.

Хочацца верыць, што стварэнне краязнаўчай камісіі (якая з часам, будзем спадзявацца; аформіцца ў краязнаўчае таварыства) можа аздаравіць сітуацыю, паспрыяе глыбейшаму знаёмству людзей з роднымі мясцінамі Бацькаўшчыны. Трэба аб'яднаць дзейнасць усіх даследчыкаў краю ў адну арганізацыю, нейкім чынам заахвоціць мясцовых аматараў, каб у кожным кутку Беларусі жылі свае летапісцы. Без гэтага нельга ствараць гісторыю вёсак і гарадоў Беларусі, энцыклапедычныя выданні па кожным раёне — «Памяць».

**— Чым жа канкрэтна займалася камісія гэтыя месяцы?**

— Па-першае, мы калектыўна выпрацавалі план работы на гэты год і стараемся яго трымацца. Хоць і ўлічваем падказкі часу. Па-другое, наша грамадскае аб'яднанне шырыцца, мы атрымліваем прапановы навічкоў, маем падтрымку з перыферыі. І ўжо зараз можна ўлічваць пажаданні для складання перспектыўнага плана. Увогуле, у Беларускім фондзе культуры поўным ходам ідзе падрыхтоўка доўгатэрміновай праграмы работы — «Спадчына». Там будуць улічаны і пажаданні нашай камісіі.

Сярод планавых задум камісіі — правядзенне краязнаўчай канферэнцыі. Меркавалася пачаць з рэспубліканскай. Але Гродзенскі універсітэт перахапіў ініцыятыву і правёў абласную. Што ж, няхай будуць спачатку абласныя, а пасля рэспубліканская. Хацелася б толькі, каб на гэтыя канферэнцыі пасылаліся зацікаўленыя краязнаўцы, а не «ганаровыя прадстаўнікі». Па выніках канферэнцыі мяркуецца выпусціць краязнаўчы зборнік. Акрамя гэтага, камісія плануе (і ўжо робяцца канкрэтныя захады) адкрыць свой народны універсітэт краязнаўства. Намі ўжо праведзена першая прыкідка — «перапіс» беларускіх краязнаўцаў, складзена картатэка. Набралася 175 чалавек, у тым ліку і некаторыя вучоныя. Вядома, не ўсе яны кінуцца пісаць гісторыі родных мясцін, як гэта ў свой час зрабілі А. Грыцкевіч, Л. Лыч, М. Улашчык і некаторыя іншыя. Пачынаем прапагандаваць работу самой арганізацыі і спадзяёмся на добры «прырост» яе энтузіястаў. З гэтай мэтай нядаўна адбылася сустрэча з выкладчыкамі і студэнтамі Мінскага інстытута культуры. У планах краязнаўчай камісіі значыцца выпуск значкоў у гонар гарадоў, памятных мясцін, выдатных дзеячаў навукі, культуры, рэвалюцыйнага руху. Выказана жаданне мець у рэспубліцы больш паштовых знакаў адпаведнай краязнаўчай тэматыкі. Моладзь з нефармальных аб'яднанняў «Брама», «Талака», «Тутэйшыя» і іншых прапанавалі свой удзел у рэстаўрацыйных работах па аднаўленні помнікаў архітэктуры. Думаю, што такі энтузіязм моладзі варты ўсялякай падтрымкі і пахвалы. Мяркуецца, што ўжо ў бягучым годзе будзе працаваць навукова-вучэбны атрад студэнтаў. Іх ніяк не параўнаеш з тымі недасведчанымі аднагодкамі-альпіністамі, што выкарысталі помнік архітэктуры для сваіх трэніровак.

На пасяджэнні камісіі выказвалася слушная думка аб выданні спадчыны некаторых краязнаўцаў. У прыватнасці, дацэнт БДУ імя У. І. Леніна В. Рабцэвіч прапанаваў выдаць працу М. Шчакаціхіна пра нумізматычныя скарбы Беларусі, а прафесар Мінскага інстытута культуры Л. Казлоў — атлас старадаўніх беларускіх гісторыка-геаграфічных карт, перад тым прадэманстраваўшы іх у выкананні выдатных картографаў мінулых стагоддзяў. Былі меркаванні аб выданні серыі брашур «Краязнаўцы Беларусі». Загадчыца рэдакцыі БелСЭ С. Самуэль бачыць у краязнаўцах добрых дарадцаў і памочнікаў у стварэнні новых энцыклапедый, асабліва з серыі «Памяць», прысвечаных асобным раёнам Беларусі. Была думка аднавіць старыя геаграфічныя назвы тых населеных пунктаў нашага народа, якія зафіксаваліся ў летапісах, хроніках і іншых пісьмовых крыніцах. Ужо на сучасным этапе работы камісіі з'явілася шмат даволі цікавых прапаноў.

**— Ці ўсё гэта, Генадзь Аляксандравіч, адносіцца да кампетэнцыі краязнаўчай камісіі?**

— Вельмі часта выкананне канкрэтнай працы запатрабуе супрацоўніцтва з сумежнымі камісіямі фонду культуры. Напрыклад, каб выдаць названы вышэй атлас старых карт, трэба іх адшукаць у розных сховішчах Еўропы (на сённяшні дзень адшукана яшчэ далёка не ўсё), і тут належыць аб'ядноўвацца з камісіяй «За вяртанне спадчыны», якую ўзначальвае Адам Мальдзіс. А каб вярнуць старыя геаграфічныя назвы, трэба будзе супрацоўнічаць з яшчэ адной — гісторыка-мемарыяльнай камісіяй (узначальвае Міхал Дубянецкі), а таксама з камісіяй аховы помнікаў, старшыня якой яшчэ не зацверджаны.

**— Якая далейшая перспектыва работы камісіі?**

— Усё тая ж. Найперш — ажывіць краязнаўчы рух у рэспубліцы, каб на месцах вывучалася гісторыя і духоўная спадчына кожнай вёскі і кожнага горада.



ПРОЗА

# ЯНЫ І МЫ

*Кіназказкі для дарослых*

*Лідзія Арабей*

## МАЛЬВА



На зялёным лужку пасвіліся каровы. Неба над імі было цёплае, трава зялёная, сакавітая, вакол спакой і цішыня. Сілкаваліся кароўкі, не вельмі то зважаючы адна на адну, бо добра адна адну ведалі—статак невялічкі, з году ў год усе разам—і пад адкрытым небам і пад калгасным дахам.

І вось у гэты невялічкі статак, на лужок, прыйшло двое мужчын. Чужых, не тутэйшых. Абодва ў вузкіх штоніках, у куртках, з сумкамі цераз плячо. Адзін—высокі, другі—нізкі. Прыйшлі яны сюды, нібыта на кірмаш, купляць сабе карову. Мацалі за вымя, пляскалі далонямі па спіне, хапалі за рогі. Аглядалі то адну, то другую, то трэцюю. Нарэшце запыніліся каля Мальвы—каровы з белаю плямаю на ілбе. Шапнулі нешта ёй на вуха, і Мальва адказала:

— Му-у...

Хлопцам гэта, мабыць, спадабалася. Высокі ўзяў Мальву за рог, нізкі адламаў альховы дубчык, і пагналі. Астатнія каровы пазіралі ім услед, думаючы ды гадаючы—навошта і куды павялі Мальву.

А назаўтра Кветка, якая заўсёды ўсё ведала, прынесла ў статак навіну: аказваецца, Мальву павялі здымацца ў кіне. Там па ролі патрэбна карова, і вось выбралі Мальву.

— Му-у,—сказала Лысуха. — Му-усібыць, яе за тое выбралі, што малака шмат дае.

— Каму-у ты гэта гаворыш! — запярэчыла ёй Кветка.—Я ж з ёю побач у стойле стаю, усё бачу, яна не болей малака дае, чым ты ды я...

— То, му-усібыць, за пляму... За белую пляму на ілбе, — прамукала Пяструха.

— От ужо скажаш, дык скажаш,—адазвалася Лысуха.—Калі пра плямы гаварыць, то ў цябе іх болей, чым ва ўсіх нас, разам узятых.

Яшчэ крыху памукаўшы, каровы прыйшлі да вываду, што Мальву выбралі невядома за што, нічым яна не лепшая за іншых кароў і кожная з іх магла б здымацца ў кіне. А Рыжая карова, якая сябравала з Мальваю, напісала на яе паціху ананімку:

«Ці ведаеце вы, каго здымаеце на наш шырокі, самы лепшы ў свеце савецкі экран? Ці ведаеце вы, што прабабка Мальвы ў час вайны пабывала ў Нямеччыне? І гэта толькі адгаворкі, што яе пагналі туды сілаю, яна пайшла ў Нямеччыну добраахвотна і паіла там сваім малаком нашых ворагаў.

І падпісалася:

«Патрыётка».

Але Мальву ўсё роўна здымалі ў кіне. У статак яна цяпер не прыходзіла, нібыта пані, раскашавала на лужку маладой канюшыны, скубла салодкую траўку, а барадаты дзядзька, якога звалі Аператар, здымаў яе то спераду, то ззаду, то з бакоў. І ў кароўнік яе больш не прыганялі, жыла ў асобным хляве на хутары.

Мальва пагладчэла, пахарашэла, пачала больш даваць малака. А ўсе іншыя каровы ўдоі збавілі, бо замест таго, каб пасвіцца ды жаваць жвачку, усё цікавалі за Мальваю і зайздросцілі ёй.

Але аднойчы каровы ўбачылі, што да статку бяжыць Лысуха, якая з раніцы ашывалася каля кіношнікаў ды падглядала там за Мальваю. Лысуха бегла, вылупіўшы вочы, у яе хадзілі бакі ад вялікага ўзрушэння. Спынілася, адсаплася і пачала расказваць:

— Ну-у, кароўкі любыя... Дасюль не магу апрытомнець... Гэта ж трэба... Нямашака болей Мальвы... Забіў яе немец... З пісталета застрэліў...

— Што ты вярзеш, што ты вярзеш,—напала на яе Кветка.

— Які немец! Сорак два гады, як вайна скончылася!

— Дык не немец, артыст, немцам апрануты,—растлумачыла Лысуха.

Гэта было падобна на праўду... Ды хіба такое выдумаеш?

Каровы прыціхлі. І кожная цяпер думала сама сабе: от жа добра, што мяне тады не выбралі... Гэта ж і мяне б застрэлілі... А так хораша на лужку, пад цёплым сонейкам.

Толькі Рыжая карова, якая напісала ананімку, падумала: так гэтай Мальве і трэба... Каб не задавалася... Падумаеш, артыстка!

## ШАРЫК



Ён разумеў, што жыць засталося зусім крышачку. Можа, адну гэту ноч. А можа, і яшчэ меней. І сам вінаваты. Дзе дзеўся спрыт, дзе сіла? Не ўцёк, не выкруціўся ад таго сачка... Сядзі цяпер у смярдзючым будане і чакай пагібелі.

У тым жа будане сядзела яшчэ пяцёра сабак. Усе брудныя, галодныя. Пазашываліся ў куткі, сумнымі вачамі мігалі. Шарык падбягаў да аднаго, да другога. Казаў словы супакаення. Развітваўся і з імі, і з жыццём.

І вось адчыніліся дзверцы. Усё... Апошні міг...

Але замест смерці ў дзвярах стаяў малады хлопец у сіняй кашулі, з вялікаю сумкаю цераз плячо. Агледзеў тых, што туліліся па кутках, спыніў позірк на Шарыку, які застыў пасярод будана. І быццам ведаў, як яго зваць. Паклікаў: «Шарык, Шарык!» А потым ашыйнік на шыю, да ашыйніка павадок прычапіў і павёў—на волю.

Спачатку Шарык не мог даць веры такой радасці. Чакаў падвоху. А далей бачыць — ідуць яны сабе ды ідуць. На нейкі хутар прышкандыбалі. А там людзей-людзей. Абступілі ўсе Шарыка—«Ах, харошы, ах, бедненькі!» Добрыя тоўстыя цёткі гладзіць яго пачалі, міску супу пад нос паставілі.

Еў галодны Шарык, аж душыўся. Узнімаў вочы на людзей, прасіў прабачэння за такую некультурную яду і зноў сёрбаў.

Знайшлася тут для Шарыка і будка са шматком сена. І пачалося жыццё салодкае, нібыта казка. У сытасці. На волі. З ласкаю ад людзей.

Што за казка тут і як апынуўся ў ёй Шарык—расказала яму Варона, што даўно жыла на гэтым хутары і якую не спужаў народ, апанаваўшы двор.

— Яны здымаюць тут кіно... І патрэбны ім сабака. Паслалі яны Васю на жывадзёрню. А той прывёў цябе...

Шарык думаў цяпер кожны дзень пра тое, якія выкрунтасы робіць лёс. Гэта ж толькі ўявіць—ад смерці, ад небыцця, да якога заставалася хвіліна,—у яснае сонца, на смачную яду і ў бяссмерце, якое дорыць на зямлі хіба адно мастацтва. І ён вельмі шкадаваў тых сабачак, што засталіся тады ў будане, для якіх лёс аказаўся не такі шчаслівы.

Шарык хутка зразумеў, чаго хацеў ад яго высокі худы дзядзька, якога звалі Рэжысёр. Шарык павінен быў бегаць за дзедам—нібыта той дзед быў ягоны гаспадар. Павінен быў лашчыцца да таго дзеда і брахаць на другога старога, які браўся за фортку, каб увайсці ў іхні двор. Шарык рабіў, што яму загадвалі, і Рэжысёр хваліў яго, і ўсе людзі казалі— ну і разумны сабака... Ну і Шарык... Таленавіты артыст!..

Шарык выконваў загады, пакуль Рэжысёр не казаў слова «Стоп!». Пасля слова «Стоп!» Шарык быў вольны і бег да старога, на якога па ролі павінен быў гаўкаць. Ён пазіраў старому ў вочы, віляў хвастом, нібыта гаварыў: «Даруй мне, дзедка, я не маю злосці на цябе, не хацеў бы брахаць, але чаго не зробіш, калі загадваюць...» І стары разумеў яго, і трэпаў па загрыўку, і вымаў кавалак кілбасы—частаваў Шарыка.

А потым Шарык шукаў Васю, які прывёў яго з жывадзёрні, і лашчыўся да Васі, і лашчыўся да ўсіх, хто да яго падыходзіў, гатовы быў кожнаму ўслужаць, кожнаму сказаць нешта добрае. Але вядома ж, што сабака разумее ўсё, толькі сказаць не можа. І палюдску Шарык сказаць не мог — гаварыў па-сабацку—вачмі, хвастом, усёй сваёю скураю. Ён хацеў, каб жыццё, вось такое, плыло, цягнулася бясконца, каб не канчалася лета, не

ЛЯ КНІЖНАЙ ПАЛІЦЫ

# СКАРЫНА: ДАКУМЕНТЫ РАСКАЗВАЮЦЬ

Неўзабаве мы будзем адзначаць 500-годдзе з дня нараджэння тытана эпохі Адраджэння, заснавальніка рэнесансна-нацыянальнай традыцыі ў культуры ўсходнеславянскіх народаў, беларускага першадрукара Францыска Скарыны. Не застаюцца ўбаку ад гэтага слаўнага юбілею і выдавецкія работнікі рэспублікі. Пацвярджэнне таму — шэраг кніг, што значацца ў тэматычных планах на бліжэйшы час. Адна з іх нядаўна пабачыла свет у выдавецтве «Навука і тэхніка». Гэта — «Францыск Скарына. Зборнік дакументаў і матэрыялаў», які выйшаў пад эгідай Інстытута літаратуры імя Янкі Купалы Акадэміі навук БССР.

Гэты зборнік — плён даследчыцкай работы аднаго са шчырых руплiўцаў на ніве гісторыі нацыянальнай культуры В. Дарашкевіча, які з'яўляецца аўтарам прадмовы, укладальнікам матэрыялаў, а таксама каментарыяў і імяннога паказальніка. У кнізе ўпершыню сабраны разам і пракаменціраваны многія матэрыялы, што маюць дачыненне да Ф. Скарыны.

Што ж гэта за матэрыялы?

Рыхтуючы зборнік у адпаведнасці з планам рэспубліканскай комплекснай праграмы ў галіне грамадскіх навук «Францыск Скарына — вялікі беларускі асветнік-гуманіст, выдатны дзеяч славянскай культуры», распрацаванай у 1980 годзе камісіяй Акадэміі навук БССР па вывучэнні культурна-гістарычнай спадчыны першадрукара, В. Дарашкевіч сабраў дакументы, якія тычацца жыцця і творчасці Скарыны, жыцця яго родзічаў і блізкіх людзей. У кнігу ўвайшлі таксама і матэрыялы, звязаныя з імем першадрукара. Большасць з гэтых публікацый узяты з выданняў, якія даўно сталі бібліяграфічнай рэдкасцю, з архіваў — як айчынных, так і замежных.

Матэрыялы згрупаваны ў раздзелы «На радзіме», «У Кракаўскім універсітэце», «У Падуі», «У Вітэнбергу», «Пазнанская справа» і іншых. Тым самым ёсць магчымасць прасачыць жыццёвы шлях Скарыны, яго асветніцкую і друкарскую дзейнасць на вялікім прамежку часу. Праўда, як зазначае В. Дарашкевіч у прадмове, «даводзіцца канстатаваць, што многія старонкі ў біяграфіі Скарыны яшчэ застаюцца не раскрытымі... Неабходны далейшыя настойлівыя пошукі даследчыкаў у розных архівах СССР, Польшчы, Чэхаславакіі, Румыніі, Малдавіі, Даніі, Ватыкана і інш.».

Уяўляе цікавасць і раздзел «Выданні Францыска Скарыны». Яго падрыхтаваў доктар гістарычных навук Я. Неміроўскі. Прапануецца найбольш поўнае апісанне скарынінскіх выданняў, падаецца каталог тых з іх, якія дайшлі да сённяшняга дня.

Кніга «Францыск Скарына. Зборнік дакументаў і матэрыялаў» адрасуецца шырокаму колу чытачоў. У асноўным тэксты змешчаны ў арыгінале, а таксама ў перакладзе на беларускую і рускую мовы. Тэксты, напісаныя на старабеларускай і рускай мовах, друкуюцца ў арыгінале.

В. ЗАКРЭЎСКІ.




Рыхтуецца да 500-годдзя з дня нараджэння першадрукара і Міністэрства сувязі СССР. Юбілейная марка, прысвечаная Ф. Скарыне,—першая ластаўка, якая прынесла ўжо задавальненне многім філатэлістам.

# ВЫБРАНАЕ З ПЕРАЖЫТАГА

Кніга «Літаратар», толькі што выпушчаная выдавецтвам «Советский писатель», звярнула на сябе ўвагу не толькі таму, што аўтар яе—Веніямін Каверын, вядомы пісьменнік адзін з патрыярхаў рускай савецкай літаратуры. Ёсць яшчэ адна акалічнасць, якая прыцягвае ўвагу да кнігі: у ёй сабраны дзённікавыя запісы пісьменніка, а таксама яго лісты да таварышаў па пяру. Але, але: і пісьмы.

Незвычайнасць падобнага кроку добра разумее і сам В. Каверын. У прадмове «Дзённікі і лісты» ён прызнаецца: «...Я шмат разоў пачынаў гэтую кнігу і адкладваў убок, таму што мне здавалася, што мае лісты і многія старонкі дзённіка, звязаныя з мінулым, а часам—і зусім даўнімі гадамі, так устарэлі, што іх усё адно ніхто не будзе чытаць. Але прайшоў час, я паказаў гэтую кнігу некаторым выпадковым, далёкім ад літаратуры знаёмым, і яны ў адзін голас сказалі мне, што я памыляюся, што нічога страшнага, калі падзеі, пра якія я расказваю, даўно забыты ўсімі, акрамя мяне, удзельніка і сведкі гэтых падзей».

Таму і нарадзілася гэтае своеасаблівае выбранае з перажытага: уражанні, роздум, падарожныя малюнкі, старонкі з дзённікаў, лісты. В. Каверын згадвае блізкіх яму людзей. І тых, хто разам з ім уваходзіў у літаратурнае аб'яднанне «Серапіёнавы браты». І тых, хто аказаў вялікі ўплыў на яго далейшую творчасць. І тых, з кім ён страчаўся, з кім перапісваўся, каго чытаў. Я. Шварц, К. Сіманаў, Л. Первамайскі, Б. Пастарнак, К. Федзін—толькі некаторыя з іх.

Сярод пісьменнікаў, з якімі В. Каверын даўно падтрымлівае сувязь, і Васіль Быкаў. Пра яго ў кнізе—цэлы артыкул (як і іншыя аналагічныя матэрыялы, без назвы). В. Каверын гаворыць тут пра многія аповесці пісьменніка, даючы ацэнку асобным з іх: «Дажыць да світання», «Сотнікаў», «Круглянскі мост», «Пайсці і не вярнуцца», «Знак бяды». Пра творчасць В. Быкава, як пра непаўторную мастацкую з'яву, ён піша так: «Для яго вайна—гэта выпрабаванне характара на мужнасць, на вернасць, на цярплівасць, на сумленнасць, на здольнасць любіць. Пытанні, якія ён ставіць перад чытачамі, насуперак сваёй прыналежнасці да самай значнай трагедыі дваццатага стагоддзя, узнімаюцца над канкрэтнасцю часу. Яны належаць сусветнай літаратуры, яны прымушаюць задумвацца над задачай волі, над пераадоленнем лёсу, над сэнсам жыцця, над значэннем вышэйшай чалавечай прыгажосці».

Лісты В. Каверына да В. Быкава—яшчэ адно пацвярджэнне плённасці творчых узаемасувязей беларускай літаратуры з рускай, асабістых кантактаў пісьменнікаў, прадстаўнікоў двух народаў.

А. АНДРЭЕЎ.

**«Грузінскімі дарогамі песняроў» — так называліся нататкі Ніны Цвіркі, якія былі змешчаны ў «ЛіМе» 10.07.1987 г. Прапануем увазе чытачоў іх своеасаблівы працяг.**

### ПОШУКІ, ЗНАХОДКІ

# Яго другая радзіма...

Знаёмячыся з матэрыяламі аб паездках Янкі Купалы ў Грузію, я зацікавілася ўспамінамі Т. Масэнкі «Слова пра Янку Купалу» (Зб. «Янка Купала», Мн., 1952). «На адным з літаратурных вечароў у Тбілісі, — успамінаў украінскі паэт, — мы пазнаёміліся з некалькімі студэнтамі. Адна з іх, маладая дзяўчына Мзія А., добраахвотна ўзялася суправаджаць нас па гістарычных месцах горада. Ці таму, што яна выхавалася ў сям'і літаратараў (Мзія А. была ўнучкай пісьменніцы Кацярыны Габашвілі), ці проста як выдатніца вучобы, але яна добра ведала гісторыю свайго горада і краіны. Яна паказвала нам раёны горада, расказвала пра вядомыя будынкі, пра экспанаты ў краязнаўчым музеі, пра гатункі вінаграду. Іван Дамінікавіч запісаў сабе ў блакнот назву вінаграду, якая ў перакладзе з грузінскай мовы азначала: «валова вока».

— Вы звярніце ўвагу, якое цудоўнае расце ў нас студэнцтва! — ціхенька з захапленнем гаварыў Іван Дамінікавіч. — Яна добра і глыбока разбіраецца і ў архітэктуры, і ў гісторыі, і ў батаніцы. Гаворыць аб усім упэўнена і цвёрда. Мае свой густ у архітэктуры, дакладна вызначае архітэктурныя стылі. І гаворыць аб усім проста і зразумела. Цудоўная моладзь у нас падрастае!»

Я сустрэлася з ёю, хоць і не так проста было знайсці чалавека, ведаючы толькі яго імя. Праўда, дапамаглі звесткі пра тое, што яна была ўнучкай Кацярыны Габашвілі. І ў гэтых пошуках я шчыра ўдзячна калежанцы — старшай навуковай супрацоўніцы Літаратурнага музея Грузіі імя Г. Леанідзе Русіко Чантурышвілі. З ёй мы пабывалі на кафедры агульнага мовазнаўства Тбіліскага дзяржаўнага універсітэта, дзе працуе Мзія Канстанцінаўна Андранікашвілі, а затым і ў яе дома.

Імя гэтай жанчыны і яе сям'і шырока вядома ў Грузіі. Яна — доктар філалагічных навук, член-карэспандэнт АН ГССР. Муж Георгій Чагашвілі — славуты акадэмік-матэматык; сын Арчыл — біяфізік, дацэнт універсітэта, працуе над доктарскай дысертацыяй; сын Леван — член Саюза мастакоў Грузіі.

Тады, у дні Руставелеўскага пленума, Мзія Андранікашвілі, студэнтка першага курса філфака Тбіліскага універсітэта, мела шчаслівую магчымасць пабываць амаль на ўсіх мерапрыемствах, звязаных з юбілеем славутай паэмы. Справа ў тым, што яе родная бабуля Кацярына Габашвілі была ўжо вельмі старая, дрэнна чула, і Мзія па яе просьбе вымушана была ўсюды суправаджаць яе.

«Аднойчы, у Канцэртнай зале імя Ш. Руставелі, побач з намі сеў малады чалавек, — успамінае яна. — Непрыкметна мы разгаварыліся. Гэта быў украінскі паэт Тарэнь Масэнка. Ён і пазнаёміў мяне з Янкам Купалам. З радасным хваляваннем глядзела я на гэтага чалавека, імя якога добра ведала па перакладах яго твораў на грузінскую мову. І тады, і пазней я заўважала, з якой глыбокай пашанай ставіліся да яго іншыя пісьменнікі, як даражыў і і ганарыўся сяброўствам з ім Т. Масэнка. Нельга сказаць, што Янка Купала быў гаваркі, але ўсе лавілі кожнае яго слова. Мне асабліва запомніўся твар паэта — светлы, вельмі сімпатычны, з праніклівым паглядам блакітных вачэй, якія кранала душу. І гэты дзівосны пагляд праз столькі гадоў жыва ўстае перад маімі вачыма».

На адным з пасяджэнняў усіх удзельнікаў павезлі ў Гістарычны музей Грузіі, дзе было адкрыццё юбілейнай выстаўкі «Шата Руставелі і яго эпоха». Анатацыі былі на грузінскай мове, і Т. Масэнка папрасіў растлумачыць і расказаць пра многія экспанаты выстаўкі. «Я бачыла, як уважліва слухаў мае тлумачэнні Янка Купала, як цікавіўся ён гісторыяй Грузіі. Гуляючы па горадзе, мне хацелася паказаць усе выдатныя мясціны нашай сталіцы, расказаць пра іх. Янка Купала шчыра падзякаваў і выказаў здзіўленне: «Вы вучыцеся яшчэ толькі на першым курсе універсітэта. Адкуль вы ўсё гэта ведаеце?» І пацікавіўся маёй сям'ёй. Я расказала, што вырасла ў сям'і, дзе глыбока шануюцца традыцыі і культура грузінскага народа. Любоў да літаратуры прывіла бабуля Кацярына Габашвілі. Вялікая заслуга і бацькі Канстанціна Іосіфавіча Андранікашвілі, які быў вядомым рэжысёрам Грузінскага драматычнага тэатра, а пазней прафесарам Тэатральнага інстытута», —расказвала Мзія Канстанцінаўна.

З Тарэнем Масэнкам у іх завязалася перапіска. Яна падаравала яму творы Важа Пшавелы, і ён перакладаў іх на ўкраінскую мову. Прысвяціў ёй некалькі вершаў, і Мзія Канстанцінаўна ціха і крыху ўсхвалявана чытае іх нам. А ў адным з лістоў Т. Масэнка пісаў, што сустракаўся з Янкам Купалам, успаміналі Грузію і свайго цудоўнага праважатага.



А. ШАНІДЗЕ і Янка КУПАЛА Цхалтуба, 1938 г.
Малюнак невядомага мастака.

Як да вядомага вучонага-філолага, звяртаюся да Мзіі Канстанцінаўны растлумачыць сэнс слова «генацвале», якое дало назву купалаўскаму вершу.

«Генацвале» — даслоўна азначае «я замяню цябе» (г. зн. памру за цябе, прыму на сябе беды і непрыемнасці, ахвярую сваім жыццём дзеля цябе), а пры звароце — «мая мілая, дарагая, бясцэнная» і г. д. з рознымі кантэкстуальнымі нюансамі — просьба, маленне, здзіўленне і захапленне. Гэта слова часта сустракаецца ў грузінскіх народных песнях.

Што датычыцца слова «генацвале», якім называецца верш Янкі Купалы і якое завяршае кожную страфу, то яно, дзякуючы гэтаму ідыёматычнаму выразу, становіцца зусім грузінскім па духу і здаецца нават перакладам з грузінскай мовы», — сказала М. Андранікашвілі.

У час нашай сустрэчы я падаравала Мзіі Канстанцінаўне кнігу «А хто там ідзе» Я. Купалы ў перакладзе на 82 мовы свету, кнігу выбраных твораў паэта. Папрасіла напісаць хоць некалькі слоў пра творчасць песняра.

Мзія Канстанцінаўна напісала:

«Што я магу сказаць новага пра вершы Янкі Купалы, акрамя выражэння майго захаплення яго шчырай паэзіяй, якая ліецца проста з сэрца, празрыстая, як горная крыніца, і вялікая ў сваёй прастаце».

За дзень да ад'езду сустрэлася я з чалавекам, які нямала зрабіў для Янкі Купалы ў час яго падарожжаў па Грузіі, па просьбе паэта наведаў яго ў Цхалтуба. Аляксандр Іларыёнавіч Шанідзе, даведаўшыся, што я прыехала з музея Янкі Купалы, адразу наведаў мяне ў гасцініцы. У гэтым годзе яму ўжо будзе 80, але ён вельмі бадзёры, рухавы і да гэтага часу ўлюбёны ў «нашага Купалу». Ён перадаў музею свае кнігі і газеты з публікацыямі пра Купалу. Чытаў верш, прысвечаны беларускаму песняру. Паказаў пісьмы, якія паэт пісаў яму з Цхалтуба і Сухумі, — імі ён вельмі ганарыцца. Разам з пісьмамі я бачу замалёўкі. Аляксандр Іларыёнавіч расказаў, што замалёўкі зрабіў невядомы мастак у Цхалтуба, калі яны з Купалам сядзелі на лавачцы.

«А зараз я правяду вас па тых мясцінах, дзе я знаёміў з горадам свайго дарагога госця ў лістападзе 1938 года», — сказаў ён.

«Купала спыніўся ў гасцініцы «Тбілісі», — працягваў ён, калі мы пад'ехалі сюды. — Калі раніцою я наведаў паэта, ён стаяў ля акна і любаваўся залітаю сонцам чароўнай панарамай Мтацмінда і Салалакі, прыгажэйшых куткоў нашай сталіцы. Тады Купала сказаў словы, якія я запомніў на ўсё жыццё: «Грузія для мяне другая радзіма».

**Ніна ЦВІРКА.**




**З 25 КРАСАВІКА ПА 2 МАЯ**

**27 красавіка, 19.30**

**«ПАЭЗІІ РАДОК ЧАРОЎНЫ»**

Вершы С. Законнікава чытае У. Макараў.

**28 красавіка, 21.50**

**«ЛІРА»**

Мастацка-публіцыстычная праграма з удзелам А. Адамовіча, Я. Веліхава, У. Някляева, І. Шклярэўскага.

**30 красавіка, 13.10**

**«МІНСК МУЗЫЧНЫ»**

Канцэрт маладзёжнага камернага хору.

**30 красавіка, 19.35**

**«У ЖЫВАПІСЕ, ГРАФІЦЫ, СКУЛЬПТУРЫ»**

Перадача прысвячаецца Усесаюзнаму тыдню выяўленчага мастацтва, які адбыўся ў Мінску.

**30 красавіка, 23.15**

**«ВЯЧЭРНІ КАНЦЭРТ»**

Прэм'еры Дзяржаўнага канцэртнага аркестра БССР.

Прагучаць песні Глебава, Лучанка, Мулявіна, Захлеўнага, Іванова, Раінчыка.

**1 мая, 14.15**

**«СЛАЎСЯ ТЫ, НАША РАДЗІМА!»**

Канцэрт Дзяржаўнага акадэмічнага народнага хору БССР імя Цітовіча.

Мастацкі кіраўнік і галоўны дырыжор — народны артыст БССР М. Дрынеўскі.

**1 мая, 15.45**

**«ПРЭМ'ЕРА ПЕСНІ»**

У. Буднік, Г. Бураўкін. «Маці-Зямля». Выконвае вакальна-інструментальны ансамбль «Сябры».

**1 мая, 18.10**

**«МЕТРАНОМ»**

Перадача прысвячаецца фестывалю «Мінская вясна».

**1 мая, 23.20**

**«СУСТРЭНЕМСЯ ПАСЛЯ АДЗІНАЦЦАЦІ»**

Інфармацыйна-музычная праграма.

**2 мая, 11.55**

**«МУЗЫКА МАЁЙ РЭСПУБЛІКІ»**

Канцэрт з твораў А. Багатырова.

**2 мая, 16.15**

**«ЛІТАРАТУРНАЯ БЕЛАРУСЬ»**

У перадачы сюжэт, прысвечаны 100-годдзю з дня нараджэння беларускага паэта Алеся Гаруна, расказ пра пасяджэнне Савета па беларускай літаратуры СП СССР, сустрэча з адным з аўтараў двухтомніка «Анталогія грузінскай паэзіі» Х. Берулава, роздум М. Мушынскага над старонкамі аповесці Якуба Коласа «Адшчапенец», вершы Пруднікава.



«Литература и искусство» — орган Министерства культуры и правления Союза писателей БССР. Минск. На белорусском языке.

«ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА»

Выходзіць раз на тыдзень, па пятніцах.

Ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга друкарня выдавецтва ЦК КП Беларусі.

Індэкс 63856 П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
АТ 01160 М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12

АДРАС РЭДАКЦЫІ: 220600, ГСП, Мінск, вул. Захарава, 19.

ТЭЛЕФОНЫ: прыёмнай рэдакцыі — 33-24-61, намесніка галоўнага рэдактара — 33-25-25, адказнага сакратара — 33-19-85, аддзела публіцыстыкі і нарыса — 33-19-65, аддзела пісьмаў — 33-19-65, аддзела крытыкі і бібліяграфіі — 33-22-04, аддзела прозы і паэзіі — 33-22-04, аддзела тэатра, кіно і тэлебачання — 33-21-53, аддзела музыкі — 33-21-53, аддзела выяўленчага мастацтва і аховы помнікаў — 33-24-62, аддзела народнай творчасці і культасветработы — 33-24-62, аддзела інфармацыі — 33-24-62, аддзела мастацкага афармлення і фотаілюстрацый — 33-44-04, 33-24-62, карэктарскай — 32-20-64, бухгалтэрыі — 23-73-37.

Матэрыялы прымаюцца надрукаванымі на машынцы (праз два інтэрвалы). Рукапісаў рэдакцыя не вяртае.

Галоўны рэдактар Анатоль ВЯРЦІНСКІ.



Адказны сакратар Андрэй ГАНЧАРОЎ.